ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№13 (2519)

27 сакавіка 1997 г.

Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.

## У СУТОКУ АРШЫЦЫ І ДНЯПРА






**Беларускі горад Орша мае вельмі паважны ўзрост. Упершыню ён згадваецца ў "Аповесці мінулых гадоў" каля 1067 года. Орша, пабудаваная на натуральным узвышшы, у сутоку Дняпра і Аршыцы, была важным фарпостам на ўсходзе Полацкага княства. На месцы, дзе быў заснаваны горад, устаноўлены памятны знак (на першым здымку). Вось тое месца, дзе Аршыца ўпадае ў Днепр (на другім здымку).**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

*(Працяг фотарэпартажу на 5-й стар.).*

## У ІМЯ СУСВЕТНАЙ РЭВАЛЮЦЫІ

# БРЭСЦКІ МІР

**З сакавіка 1918 года ў Брэст-Літоўску савецкая дэлегацыя ў поўнай адпаведнасці з рашэннем ВЦВК і ЦК РСДРП(б) без абмеркавання падпісала з Германіяй і яе саюзнікамі дагавор аб міры, па-сапраўднаму грабежніцкі з яе боку. У чым жа прычына такога рэзкага павароту ў знешняй палітыцы бальшавікоў! І якое ў сувязі з гэтым месца Брэсцкага міру ў нашай гісторыі!**

I

Дэкрэт аб міры быў апублікаваны 28 кастрычніка (9 лістапада) у "Правде" і "Известиях ЦИК". Аднак урады ваюючых дзяржаў пакінулі савецкую прапанову без адказу. У гэтых умовах 7(20) лістапада Саўнарком аддаў загад вярхоўнаму галоўнакамандуючаму рускай арміяй генералу Духоніну неадкладна звярнуцца да камандавання краін Чацвёртага саюза з прапановай прыпыніць ваенныя дзеянні ў мэтах адкрыцця мірных перагавораў. На наступны дзень нарком па замежных справах Л. Троцкі разаслаў тэкст дэкрэта паслам дзяржаў Антанты, прапанаваўшы неадкладна заключыць усеагульнае перамір'е і адкрыць мірныя перагаворы з краінамі германскага блока.

12(25) лістапада перагаворы аб перамір'і з праціўнікам пачалі часці 2, 3 і 5-й армій. На наступны дзень у перагаворы ўступілі парламенцёры, пасланыя галоўкаверхам. 14(27) лістапада згода германскага камандавання на афіцыйнае вядзенне перагавораў была атрымана. Да Германіі далучылася і Аўстра-Венгрыя.

Ужо на першым этапе перагавораў, што праходзілі ў Брэст-Літоўску з 20 па 22 лістапада (3—5 снежня), савецкая дэлегацыя ўнесла прапанову аб неадкладным звароце да ўсіх ваюючых краін, не прадстаўленых на перагаворах, з заклікам прыняць удзел у складанні ўмоў перамір'я на ўсіх франтах. Паколькі дэлегаты супраціўнага боку ўхіліліся ад адказу, савецкая дэлегацыя адмовілася падпісаць на данай стадыі перагавораў фармальнае перамір'е. Было прынята рашэнне аб'явіць сямідзённы перапынак і прыпыніць ваенныя дзеянні на руска-германскім, руска-аўстрыйскім і руска-турэцкім франтах.

30 лістапада (13 снежня) перагаворы ў Брэст-Літоўску былі працягнуты. Найбольш востра паўстала на іх пытанне аб забароне перакідак германскіх войскаў з Усходняга фронту на Заходні на ўвесь час перамір'я. Нямецкае камандаванне лічыла гэтую ўмову непрымальнай, і савецкая дэлегацыя была вымушана ў першы ж дзень перагавораў звярнуцца ў Народны камісарыят замежных спраў па дадатковыя інструкцыі.

2(15) снежня быў падпісаны дагавор аб перамір'і паміж Расіяй, з аднаго боку, Балгарыяй, Германіяй, Аўстра-Венгрыяй і Турцыяй — з другога. Перамір'е ўстанаўлівалася на 28 дзён — з 4(17) снежня 1917 года па 1 (14) студзеня 1918 года. Пасля яго заключэння бакі павінны былі пачаць мірныя перагаворы. Яны пачаліся ў Брэст-Літоўску 9(22) снежня.

Агульная лінія паводзін, за якую выступалі Ленін і ўсе іншыя лідэры партыі, заключалася ў тым, каб, усямерна зацягваючы мірную перадышку, максімальна выкарыстаць агітацыйныя магчымасці Брэста для далейшага і хутчэйшага набліжэння сусветнай рэвалюцыі.

II

Заслонай таямнічасці, недагаворанасці ахутаны многія моманты, звязаныя з дра-

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

## НАРОДНЫЯ СВЯТЫ

# СОРАК САРАКОЎ, СОРАК ВЫРАЯЎ

Птушкі, як найбольш вольныя істоты свету, заўсёды будзілі фантазію людзей. Па старажытных уяўленнях — "жаваeasy", прыляціце ды нам лецечка прынясіце", — яны на сваіх слабых крыльцах прыносілі вясну. Гэта нарадзіла унікальную з'яву спеўнай культуры Беларусі, прысвечаную птушачак у спеўнай форме гукання вясны. Звычайна яго інтанацыі з'яўляліся на ўсходзе Беларусі, адкуль узыходзіла сонца (гуканне існуе, зразумела, толькі ў гэтай частцы).

Сказанае раскрывае сэнс стала замацаванага ў народным календары свята Саракі, якое адзначаецца ў дзень веснавога раўнадзенства 22 сакавіка. Пасля яго дзень становіцца большым за ноч, цяпло перамагае холад. Рызыкну выказаць меркаванне, што калісьці, у дахрысціянскія часы сонцапаклонніцтва, нашы продкі святкавалі ў гэты дзень Вялікдзень, які, як сімвал уваскрэсення прыроды, у хрысціянскія часы арганічна зліўся з уваскрэсеннем Хрыстовым і стаў па гэтай традыцыі перасоўным святам (сёлета ён будзе святкавацца 27 красавіка).

Дзецi, моладзь у дзень Саракоў гукаюць вясну на высокіх горках, водзяць карагоды, ладзяць гульні, асабліва з печывам у выглядзе птушачак ці іх лапкаў, якія называлі "галёпамі". Хто першы заўважыў бусла, той выходзіў яму насустрач са словамі: "Боцян, боцян! На табе галёпу, дай мне жыта капу!" Увогуле бусел, асабліва на Сараках, карыстаецца асаблівай павагай (легенда раскрывае сакрэт, што гэта чалавек, якому Бог даверыў мяшок з гадамі, а той з-за цікаўнасці развязаў яго, за што быў ператвораны ў бусла).

Па "галёпах" на Сараках дзяўчаты гадалі: клалі іх у рад і клікалі сабаку: у якім парадку ён іх будзе есці — так дзяўчаты будуць выходзіць замуж. Пры гэтым удзельнікі прыгаворвалі: "Вее, вее веснавы вецярок, прыйдзі, мой міленькі, дам табе галёп — з мёдам сычаным, з ласкаю дзявочаю".

На Сараках рабілі са снегу, калі яшчэ быў, або з саломы бабу, якую разрывалі-разбівалі і праганялі: "Ідзі, зіма, каб на дзевяць месяцаў ад нас пайшла". Пасля гэтага білі старыя гаршкі і пры абыходзе двароў кідалі іх на парог з прыгаворамі: "Гаспадынька, гаспадынька, кідай сваю пражу. Зіма ўжо прагнаная, адчыняй свае дзверы, заві нас у госці". Гаспадыня частавала вестуноў вясны, якія пры гэтым спявалі.

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ*

# УМЯШАННЕ ВА ЎНУТРАНЫЯ СПРАВЫ ДЗЯРЖАВЫ НЕДАПУШЧАЛЬНАЕ

**"Рэспубліка Беларусь — суверэнная дзяржава, і мы не дазволім, каб замежныя грамадзяне фінансавалі апазіцыю або ўдзельнічалі ў беспарадках". Так пракаменціраваў факт выдварэння з краіны выканаўчага дырэктара Беларускага фонду Сораса грамадзяніна ЗША Пітэра Берна Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Аб гэтым ён заявіў 18 сакавіка на сустрэчы з кіраўнікамі рэспублікі мінулых гадоў.**

**16 сакавіка 1997 года ў аэрапорце Мінск-2 выканаўчаму дырэктару Беларускага фонду Сораса грамадзяніну Злучаных Штатаў Амерыкі Берну Пітэру Джорджу кампетэнтнымі органамі было адмоўлена ва ўездзе ў Рэспубліку Беларусь.**

**Падставай для прыняцця такога рашэння з'явілася дзейнасць пана Берна, несумяшчальная са статусам яго знаходжання ў Рэспубліцы Беларусь як грамадзяніна замежнай дзяржавы.**

**Гэта пацвярджаецца неаднаразовымі парушэннямі панам Бернам заканадаўства краіны знаходжання, у тым ліку асабістым удзелам яго, прадстаўніка грамадскай непалітычнай арганізацыі, у праводзімых у г. Мінску несанкцыяніраваных масавых акцыях. Гэта не можа быць расцэнена інакш, як умяшанне ва ўнутраныя справы суверэннай дзяржавы.**

**Прэзідэнт адзначыў, што не хацеў бы, каб рашэнне беларускіх уладаў па гэтаму канкрэтнаму выпадку ўспрымалася кіраўніцтвам ЗША як мэтанакіраваная акцыя. У той жа час ён паведаміў, што такія меры і ў далейшым будуць прымяняцца ў адносінах да замежных гасцей, якія ўмешваюцца ва ўнутранае жыццё нашай краіны, чыімі б грамадзянамі яны ні былі — ЗША, Расіі або іншых краін.**

**Аляксандр Лукашэнка сказаў, што ў бліжэйшы час органы дзяржаўнага кантролю маюць намеры праверыць дзейнасць шэрагу фондаў, у тым ліку і чарнобыльскіх, і ў далейшым праінфармаваць грамадзян рэспублікі аб выніках гэтых праверак.**

**Не адмаўляючы права апазіцыі мець уласныя перакананні і выказваць сваю думку, Прэзідэнт разам з тым падкрэсліў, што гэта павінна адбывацца ў цывілізаванай форме. Улады ўлічваюць заяўкі палітыкаў, прадастаўляючы ім месцы для правядзення мітынгаў, пікетаў, іншых акцый. Аднак кіраўніцтва краіны не мае намеру пакідаць без увагі шумныя несанкцыяніраваныя працэсіі, якія дэстабілізуюць сітуацыю ў сталіцы і іншых рэгіёнах.**

*ДЭМАРШ*

# ДЗЯРЖДЭПАРТАМЕНТ ЗША ВЫКАЗАЎ ПРАТЭСТ У СУВЯЗІ З ВЫСЫЛКАЙ ПІТЭРА БЕРНА

**Прэс-сакратар Дзяржэпартамента ЗША Нікалас Бернс зрабіў заяву з выпадку затрымання і высылкі з Беларусі 17 сакавіка выканаўчага дырэктара Беларускага фонду Сораса Пітэра Берна.**

**У заяве выказана шкадаванне ў сувязі з інцыдэнтам і ўказваецца на тое, што Пасольствам ЗША ў Беларусі і Дзяржаўным дэпартаментам Злучаных Штатаў былі накіраваны пратэсты беларускаму кіраўніцтву.**

**"Арганізацыя, якую ўзначальваў Пітэр Берн, падтрымлівае дэмакратычныя рэформы, незалежныя сродкі масавай інфармацыі, культурныя і адукацыйныя праекты, — гаворыцца ў заяве. — ЗША падтрымліваюць намаганні Фонду Сораса і лічаць, што гэта падзея не прадвяшчае нічога добрага для дэмакратыі ў Беларусі". У далейшым, лічыць Нікалас Бернс, адносіны ЗША да Беларусі будуць вызначацца ў першую чаргу дзеяннямі беларускага кіраўніцтва.**

*РЫХТУЕЦЦА ЭКСПЕДЫЦЫЯ*

# ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ АРКТЫЧНАЯ

**Поўным ходам ідзе падрыхтоўка да Першай беларускай арктычнай экспедыцыі, якая стартуе ў канцы сакавіка ў раёне архіпелага Паўночная Зямля.**

**Як сказаў кіраўнік данага арктычнага падарожжа прэзідэнт фонду падтрымкі экстрэмальных экспедыцый "Полюс" Уладзімір Драбо, беларускія палярнікі маюць намер у акваторыі Карскага мора і Паўночнага Ледавітага акіяна адпрацаваць тэхніку і тактыку перамяшчэння па дрэйфуючых ільдах. Незвычайнасць экспедыцыі заключаецца ў тым, што яе ўдзельнікі будуць рухацца на адным пнеўматычным ўсюдыходзе і двух пнеўматычных трохколавых матацыклах, якія сабраны і сканструяваны ў Беларусі.**

**Асноўная мэта гэтага падарожжа — сумесна з расійскімі палярнікамі падрыхтавацца да Першай расійска-беларускай трансарктычнай экспедыцыі, намечанай на наступны год. У час яе правядзення беларусы і расіяне ўпершыню ў свеце, дзейнічаючы ў аўтаномным рэжыме, паспрабуюць, стартуючы ад берагоў Расіі, праз Паўночны полюс дасягнуць канадскага вострава Уорд-Хант. Аднак залог паспяховага праходжання трансарктычнага маршруту залежыць ад таго, наколькі ўдала пройдзе экспедыцыя гэтага года. Варта адзначыць, што яна адобрана і падтрымана беларускім Міністэрствам спорту і турызму, Міністэрствам Расійскай Федэрацыі па справах грамадзянскай абароны, надзвычайных сітуацыях і ліквідацыі вынікаў стыхійных бедстваў, а таксама Беларускім тэлеграфным агенцтвам, якое афіцыйна заявіла аб інфармацыйнай падтрымцы данага праекта.**

*«БЕЛАРУСКАЯ КНІГА - 96»*



**У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі прайшла выстава "Беларуская кніга-96". Экспазіцыя — своеасаблівая справаздача кніжных выдавецтваў рэспублікі за выпушчанае ў свет у мінулым годзе. Выпускам друкаванай прадукцыі ў 1996 годзе ў рэспубліцы займаліся дзесяць дзяржаўных выдавецтваў і больш за 100 выдаўцоў-арганізацый розных форм уласнасці, а таксама міністэрствы і ведамствы. Імі выпушчана 3 809 кніг і брашур тыражом 59,1 мільёна экземпляраў.**

**У рэспубліцы адзначаецца павелічэнне выпуску навукова-папулярнай, вытворчай, дзіцячай, даведачнай літаратуры, выданняў для адпачынку і змяншэнне колькасці навуковых, вучэбна-метадычных, інфармацыйных і рэкламных выданняў. На беларускай мове ў мінулым годзе выпушчана 598 кніг і брашур тыражом амаль дзевяць мільёнаў экземпляраў, а кніг для дзяцей выдадзена 17,1 мільёна экземпляраў 512 назваў.**

**Паспяхова вырашаліся дзяржаўнымі выдавецтвамі задачы па найбольш поўнаму забеспячэнню бібліятэк рэспублікі і асабліва школьных бібліятэк сацыяльна важнымі выданнямі. Адноўлена выдавецтва серыі "Школьная бібліятэка" і выпушчана ўжо 72 кнігі гэтай выдатнай і патрэбнай у школьных бібліятэках літаратуры. Падрыхтоўку і выпуск гэтай серыі ўзяў на сябе Дзяржкамітэт па друку.**

**НА ЗДЫМКАХ: у час адкрыцця выставы "Беларуская кніга-96".**

*КАБ НЕ ЕХАЦЬ У МАГІЛЁЎ*



**Дзіцячую стаматалагічную паліклініку з тэрапеўтычным, хірургічным, артадантычным кабінетамі юныя бабруйчане атрымалі ў адрамантаваным унікальным будынку, які ўжо больш за 100 гадоў быў медыцынскай установай і з'яўляецца помнікам архітэктуры XIX стагоддзя. У гэтым будынку, аснашчаным гомсельмашаўскімі стаматалагічнымі комплексамі "Белдэнт", створаны артадантычны цэнтр для дзяцей з раёнаў Бабруйскага рэгіёна. Цяпер адпала неабходнасць ехаць у Магілёў, каб выправіць невялікі дэфект ці скарэкціраваць рост зубоў.**

**НА ЗДЫМКАХ: будынак паліклінікі — помнік архітэктуры XIX стагоддзя; у лячэбным кабінеце.**



*СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ МАЛІТВЫ*

# МІНЧАНКІ ДАЛУЧЫЛІСЯ ЎПЕРШЫНЮ

**У Сусветны дзень малітвы жанчын, які штогод адзначаецца 7 сакавіка, да веруючых маці і сёстраў з розных краін упершыню далучыліся мінчанкі. Гэтая акцыя служыць мэтам духоўнага яднання, падкрэслівае дружалюбнасць прадстаўнікоў розных канфесій. Беларускія жанчыны, прымаючы эстафету салідарнасці ўсіх прыхаджан свету, у гэты дзень запрасілі сваіх суайчынніц на плошчу Свабоды сталіцы, каб разам заклікаць да гуманізму, міласэрнасці і справядлівасці. Ініцыятарам правядзення пікета стала Беларуская асацыяцыя працоўных жанчын у партнёрстве з іншымі жаночымі арганізацыямі рэспублікі.**

*АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ*

У ЭКАНОМІКУ Беларусі летась было інвесціравана 27,3 мільярда рублёў. Гэта на 10 працэнтаў менш, чым у 1995 годзе. Усяго ж з 1991 года аб'ём капіталаўкладанняў скараціўся больш чым у тры разы.

ПАДПІСАНЫ кантракт паміж Аршанскім ільнокамбінатам і сусветна вядомай холдынгавай кампаніяй "Цэптэр-Інтэрнацыянал". Сума кантракта — каля 1 мільёна долараў. Праз "Цэптэр" пра аршанскія льняныя вырабы даведаюцца ў 35 краінах свету, і беларускія вырабы зоймуць дастойнае месца на знешнім рынку.

АДЗІНЫ дзень інфармавання насельніцтва прайшоў у Мінскай вобласці. Ён праводзіўся ў форме семінара і нагадаў былыя савецкія палітдні. Прадстаўнікі выканаўчай улады, кіраўнікі розных вытворчых сельскагаспадарчых структур разгледзелі праблемы падрыхтоўкі да веснавой сяўбы.

АДКРЫЦЬ новы бізнес-цэнтр у Гродне вырашылі Міжнародная фінансавая карпарацыя (МФК) і Брытанскі фонд ноў-хаў.

Гэта ўжо другое аналагічнае мерапрыемства, якое будзе арганізавана ў рамках праекта "Падтрымка прыватнага прадпрымальніцтва ў Беларусі". Першы бізнес-цэнтр быў створаны ў Брэсце год таму. За гэты час яго паслугі выкарысталі больш як 250 малых і сярэдніх прадпрыемстваў. Спецыялісты цэнтра прынялі ўдзел у распрацоўцы больш як 20 інвестыцыйных праграм, агульная сума фінансавання па якіх склала 3,5 мільёна долараў ЗША.

НОВАЕ развіццё атрымала супрацоўніцтва паміж гарадамі-пабрацімамі — галандскім Эйндховенам і Мінскам. Мэры абодвух гарадоў падпісалі пагадненне аб стварэнні ў Мінску спецыяльнага Бюро па экалагічных кансультацыях — цэнтра па перадачы галандскага вопыту ў галіне аховы навакольнага асяроддзя.

У МІНСКУ праваахоўнымі органамі быў затрыманы карэспандэнт аднаго з беларускіх часопісаў. Сцвярджаючы, што ён валодае нейкай "сакрэтнай" інфармацыяй, малады чалавек спрабаваў атрымаць у кіраўніка спраў Прэзідэнта Івана Ціцянкова буйную суму долараў за прадастаўленне "доказаў", якія быццам бы ёсць у яго і датычацца бяспекі Прэзідэнта.

Як стала вядома, цяпер карэспандэнт вызвалены з-пад варты пад падпіску аб нявыездзе. Па меры завяршэння следства матэрыялы па гэтай справе будуць перададзены ў суд. Няўдачліваму аматару пагуляць у вялікія дзяржаўныя "змовы" інкрымінуецца спроба ашуканства ў асабліва буйных памерах.

СУПРАЦОЎНІКІ шэрагу лабараторый Інстытута фізікі Акадэміі навук Беларусі не разлічваюць на атрыманне зарплаты за сакавік. Яшчэ ў лютым вучоныя далі распіскі аб сваёй згодзе працаваць за 35 працэнтаў месячнага акладу. Сёння сярэдняя афіцыйная зарплата ў інстытуце не перавышае 1 мільён 300 тысяч рублёў. Магчыма, што і даследаванні па чарнобыльскай тэматыцы, якія праводзіў інстытут, будуць згорнуты па прычыне недастатковага фінансавання.

ГОРАД ЛЕПЕЛЬ стаў членам Міжнароднага аб'яднання фальклорных асацыяцый. Тут створана рэгіянальнае аддзяленне Саюза майстроў Беларусі, якім кіруе Уладзімір Пасмурэц. Майстры народных промыслаў Лепельшчыны бралі ўдзел у першай нацыянальнай выставе народнай творчасці "Ганчарнае кола-96". У мясцовым Доме рамёстваў ствараецца кабінет-музей традыцыйнага майстэрства.

# «НАРОДЫ СТАМІЛІСЯ ЖЫЦЬ У РАЗАРВАНЫМ, НАПОЎНЕНЫМ МЫТНЯМІ І ГРАНІЦАМІ СВЕЦЕ»

## Выступленне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКІ на III Кангрэсе народаў СССР 16 сакавіка 1997 года

**16 сакавіка, напярэдадні чарговай гадавіны савецкага рэферэндуму 1991 года па захаванню СССР, у сталіцы Беларусі прайшоў III Кангрэс народаў СССР. Першыя два праводзіліся ў Маскве. Гэты кангрэс быў праведзены, як зазначалі яго арганізатары, пры "маральнай і арганізацыйнай падтрымцы Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі". Кангрэс вітаў і затым выступіў на ім. А. Лукашэнка.**

Дарагія сябры!

Я горача і сардэчна вітаю вас на нашай беларускай зямлі.

Вы прыехалі ў горад-герой Мінск з усіх куткоў былога СССР — яшчэ зусім нядаўна адзінай, вялікай і магутнай дзяржавы.

Той краіны, якая выстаяла і перамагла ў самай страшнай і кровапралітнай у гісторыі чалавецтва вайне.

Краіны, брацкія народы якой у адзіным парыве ў небывала сціслыя тэрміны ўзнялі з руін і папялішчаў разбураныя гарады і вёскі, аднавілі народную гаспадарку.

Краіны, якая ўпершыню ў гісторыі чалавечай цывілізацыі паслала ў космас першы штучны спадарожнік Зямлі і касманаўта.

Краіны, чыімі дасягненнямі ў развіцці эканомікі, навукі і культуры ўсе мы па праву ганарыліся і ганарымся цяпер.

І я сёння сярод вас таму, што, як і большасць грамадзян маёй роднай Беларусі, быў і застаюся перакананым прыхільнікам стварэння магутнага абноўленага Саюза суверэнных брацкіх дзяржаў. І гэта не кан'юнктура. З гэтым я ішоў да ўлады, на гэтым стаю і цяпер.

Доўгі час у нас былі агульны лёс, агульныя інтарэсы і мэты. Мы з гонарам выходзілі з цяжкіх выпрабаванняў і дабіваліся перамогі ў будаўніцтве новага жыцця. Наша дружба і непарушная сувязь правераны часам.

У Савецкім Саюзе было шмат добрага: даступныя адукацыя, медыцына, забяспечаная старасць. Дзеці самых розных нацыянальнасцей раслі ў агульнай сям'і народаў.

Не існавала праблемы занятасці. Узяць, напрыклад, беларусаў. Яны працавалі і на Поўначы, і на Далёкім Усходзе, і ў Сярэдняй Азіі, і на Украіне. Ва ўсіх рэспубліках яны сустракалі самы цёплы, сардэчны прыём, адчувалі сябе, як дома.

Так, у нас быў агульны дом, адна Радзіма — Савецкі Саюз. Савецкі чалавек жыў з упэўненасцю ў заўтрашнім дні, з аптымізмам глядзеў у будучыню.

На жаль, на рубяжы новага тысячагоддзя палітыкам не хапіла волі і грамадзянскай мудрасці, каб абараніць сумесныя заваёвы. Мы сёння саромеемся свайго мінулага. Ганьба ўсім тым, хто саромеецца сваёй гісторыі, няхай нават часам няправільнай і памылковай.

У той час узяло верх імкненне да самастойнасці. Пышным цветам расцвілі і "набралі абароты" розныя міфы. Я лічу, што самым шкодным з іх быў міф аб "няроўнасці рэспублік", што хтосьці кагосьці "корміць" і "ўтрымлівае".

Палітыкі не здолелі ажыццявіць рэформы, выйсці на новыя рубяжы, не страчваючы заваяванага.

Нямала з'явілася і тых, хто вырашыў нагрэць рукі на дзяльбе ўласнасці і ўлады. Мы шмат часам гаворым аб прычынах развалу Савецкага Саюза, мяркуючы, што ў аснове развалу гэтай вялікай дзяржавы ляжаць унутраныя прычыны. Гэта няпраўда. Чаму мы, палітыкі, не зрабілі ўсё магчымае, каб захаваць гэту краіну? Развал Савецкага Саюза — гэта перш за ўсё знешнія фактары. Я ў гэтым перакананы быў раней, перакананы і сёння.

Пачаўся парад суверэнітэтаў, "самастойнасці і незалежнасці". Лічылася, што "суверэнітэт" вырашыць усе праблемы.

Вынікі добра вядомыя. Разрыў гаспадарчых сувязей выклікаў рэзкае зніжэнне вытворчасці і, самае страшнае, рост беспрацоўя. Тысячы працоўных у адно імгненне аказаліся жабракамі. Месяцамі, а то і гадамі ў многіх рэгіёнах былога Савецкага Саюза мільёны людзей не атрымліваюць працай і потам заробленае.

Паўсюдна зніжаецца ўзровень жыцця простых людзей, з'явілася пагроза фізічнаму выжыванню народаў. То тут, то там успыхваюць міжнацыянальныя канфлікты і войны. Мы вельмі шмат дэбатуем у разважаннях, што можна проціпаставіць прасоўванню НАТО на Усход. Беларусь заявіла гэтай палітыцы рашучае "не". Таму што пашырэнне НАТО прывядзе да таго, што гэты агрэсіўны блок наблізіцца непасрэдна да граніц нашай дзяржавы. Мы не хочам апынуцца зноў на разломе, на вастрыі процістаяння, як гэта было ў гады другой сусветнай вайны. І гэта пазіцыя не толькі Лукашэнкі, гэта пазіцыя ўсяго беларускага народа.

Самае горкае і сумнае, да чаго прывяло разбурэнне Савецкага Саюза, — гэта духоўнае спусташэнне людзей, і ў першую чаргу — моладзі, страта аптымізму, веры ў будучыню і адзін у аднаго. Так далей жыць нельга.

Але, як кажуць, няма ліха без дабра.

Вопыт апошніх гадоў, сама гісторыя, якая вяршыцца на нашых вачах, паказваюць, што вырашаць праблемы, якія паўстаюць перад дзяржавамі, паасобку не змогуць нават самыя магутныя, развітыя краіны, якія валодаюць вялікімі прыроднымі рэсурсамі.

Настаў час сказаць: эйфарыя ад "самасційнасці" прайшла. Народы стаміліся жыць у разарваным, напоўненым мытнямі і граніцамі свеце. Цвярозыя палітыкі павінны разумець, што без аб'яднання нам не стварыць магутнай эканомікі, якая магла б вытрымаць канкурэнтны націск іншых эканамічных супольніцтваў і ўстаяць перад іх экспансіяй на наш рынак.

Усім вам добра вядомы ініцыятывы Рэспублікі Беларусь, якая выступае за аб'яднанне народаў на новай аснове і ў такой форме, якая адпавядае сённяшнім рэаліям.

Ядром інтэграцыйных працэсаў выступае сёння Супольніцтва Беларусі і Расіі.

Відаць, сімвалічна, што на беларускай зямлі, дзе Савецкі Саюз закончыў свой шлях, узнік найбольш магутны імпульс да новага яднання.

Пытанне ў тым, па якім шляху ісці, у якім напрамку рухацца?

Давайце будзем рэалістамі. Да нядаўняга мінулага вяртання няма. Аднавіць той Савецкі Саюз, які існаваў да 1991 года, па многіх прычынах, як аб'ектыўных, так і ў асноўным суб'ектыўных, проста немагчыма. Калі ўцягнемся ў бясплённыя спрэчкі і дыскусіі па гэтаму пытанню, то страцім час, навярстаць які не зможам.

Што ж нам застаецца рабіць? Няма сэнсу "прыдумваць веласіпед". Трэба ісці па шляху, які выбралі цывілізаваныя краіны, выкарыстоўваць лепшы сусветны вопыт інтэграцыі, праводзіць тую палітыку, што адпавядае агульнасусветным тэндэнцыям развіцця.

У рамках Еўрапейскага саюза паспяхова і эфектыўна нарошчвае патэнцыял Еўрапарламент і Савет Міністраў, сфарміраваліся адзіны грашовы саюз і мытная прастора. На чарзе з'яўленне адзінай еўрапейскай валюты.

Аднак толькі мы заявілі аб стварэнні наднацыянальных органаў у рамках беларуска-расійскай інтэграцыі, як у Еўропе асобныя палітыкі пачалі выказвацца супраць гэтага. У гэтым праявіліся двайныя стандарты ў падыходах да Супольніцтва Беларусі і Расіі. Пэўныя сілы хочуць, каб мы і далей трымаліся паасобку, расцягваюць нашы народы ў розныя бакі адзін ад аднаго. Я перакананы: калі мы і далей пойдзем па шляху раз'яднання, то ўсім нам будзе кепска.

Пашырэнне агульнаеўрапейскіх структур ідзе добраахвотна, і краіны — члены ЕС — не бачаць у гэтым ушчамлення сваіх нацыянальных інтарэсаў.

Практычную рэалізацыю сваёй новай глабальнай палітыкі пачалі ЗША. Са студзеня 1994 года ўступіў у сілу дагавор аб Паўночнаамерыканскай зоне свабоднага гандлю (НАФТА). Ён аб'яднаў тры краіны — ЗША, Мексіку, Канаду. На долю гэтых краін прыпадае 20 працэнтаў сусветнага гандлю.

Але ЗША ў развіцці агульнаамерыканскай інтэграцыі ідуць далей. У канцы 1994 года ў Маямі адбылася сустрэча 34 кіраўнікоў дзяржаў Заходняга паўшар'я, дзе дасягнута пагадненне аб стварэнні на тэрыторыі ад Аляскі да Вогненнай Зямлі "Панамерыканскай зоны свабоднага гандлю".

У лістападзе 1994 года ў інданезійскім горадзе Богары адбылася сустрэча кіраўнікоў 18 краін, дзе ў рамках арганізацыі (АТЭС) абмяркоўваліся планы ўтварэння буйнейшай у свеце зоны свабоднага гандлю без мытняў і ўнутраных бар'ераў.

ЗША прыкладаюць значныя намаганні да стварэння паўнацэннай прасторы, дзе пражывае 40 працэнтаў насельніцтва Зямлі і цяпер выпрабляецца палова сусветнага валавога прадукту.

Інтэнсіўна развіваюцца інтэграцыйныя працэсы на вялікай тэрыторыі Афрыкі ў рамках праекта стварэння "Афрыканскага агульнага рынку", у Савеце па супрацоўніцтву арабскіх дзяржаў Персідскага заліва, Арганізацыі супрацоўніцтва цэнтральнаазіяцкіх дзяржаў.

Такія факты. І ад гэтых фактаў нікуды не дзенешся. Яны, як вядома, упартая рэч.

Але як толькі беларускі Прэзідэнт заявіў аб паскарэнні інтэграцыі на постсавецкай прасторы — інтэграцыі рэальнай, эфектыўнай, а не ўяўнай і падманлівай, як на мяне накінуліся на Захадзе і Усходзе, на Поўначы і Поўдні. І колькі ў сувязі з гэтым распаўсюджваецца недарэчных чутак, домыслаў і небыліц! Несумленныя палітыкі і прадажныя журналісты нават дагаварыліся і дапісаліся да таго, што Лукашэнка быццам бы прымярае сабе шапку Манамаха. З усёй адказнасцю заяўляю: мяне выбраў беларускі народ, самы мудры і таленавіты народ, і пакуль ён мне давярае — я буду Прэзідэнтам гэтага народа!

Гэта сведчыць, як адзначалася вышэй, што ў сучаснай палітыцы, як у глабальнай, так і рэгіянальнай, усё ярчэй праяўляецца двайны стандарт.

Для адных — збліжэнне і працвітанне.

Для другіх — размежаванне, канфлікты, кроў і гора.

Нельга рабіць выгляд, што не існуе сіл процідзеяння інтэграцыйным працэсам. Яны ёсць ва ўсіх рэспубліках, у тым ліку і ў нас, у Беларусі. Гэта тыя, хто лье бруд на нашу рэспубліку, выязджаючы ў замежныя вяжы, спрабуе аказаць націск на разважных палітыкаў як на Захадзе, так і на Усходзе.

Многія з вас бачылі па тэлебачанні выступленні апазіцыі ў г. Мінску 15 сакавіка. Сродкі масавай інфармацыі, асабліва расійскія, з усіх сіл падносілі гэтыя падзеі як акцыю масавага пратэсту. Які гэта масавы пратэст? Калі фашыствуючыя нацыяналісты змаглі сабраць пад свае сцягі ўсяго 4 тысячы маніфестантаў. І гэта ў адзінаццацімільённай рэспубліцы. Марныя патугі. Асабліва на фоне лозунгаў і патрабаванняў, што зыходзяць ад "пратэстантаў": "Рушым у Еўропу!", "Далоў аб'яднанне з Расіяй!" і да таго падобнае.

І як гэта ні сумна, сярод гэтых рэакцыйных, разбуральных сіл у Беларусі аказалася і частка людзей, якія называюць сябе "левымі" — я маю на ўвазе групоўку так званых камуністаў.

Аб гэтым сведчыць і іх удзел у апошніх акцыях, якія праводзіць непрымірымая фашыствуючая антыпрэзідэнцкая апазіцыя Беларускага народнага фронту.

Справа дайшла да таго, што ўчора асобныя лідэры камуністаў прымалі ўдзел у непрыстойным шабашы, калі на вачах у нічым не занятай публікі і тэлекамер быў парваны і растаптаны Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь — сапраўдная святыня нашага народа. Той, савецкі сцяг, які беларусы вярнулі сабе на ўсенародным рэферэндуме замест прынятага пры Шушкевічу штандара часоў кайзераўскай і гітлераўскай акупацыі.

І ў гэтых людзей сёння хапае сумлення гаварыць аб нейкіх сяброўскіх пачуццях да народаў Расіі, іншых брацкіх народаў.

Я ўпэўнены, што сёння нікому не патрэбны гучныя заявы і антыдзяржаўныя заклікі. Сёння патрэбна канкрэтная справа.

Разбуральнікам усіх масцей трэба нарэшце ўсвядоміць: Еўразія, што разбягаецца ў розныя бакі і займае адну шостую частку зямной сушы, — працэс і небяспечны, і ненатуральны.

Думаю, што цвярозыя аналітыкі добра разумеюць, што інтэграцыя постсавецкай прасторы — адзіны шлях да міру і стабільнасці, у тым ліку і для Захаду.

Як вы ведаеце, цяпер, зыходзячы з эканамічных і палітычных рэалій, выдзяляюцца тры ўзроўні інтэграцыі: першы, найбольш высокі, паміж Беларуссю і Расіяй. Другі ўзровень вызначаны Дагаворам паміж Беларуссю, Казахстанам, Кіргізіяй і Расіяй — Саюзам чатырох. І нарэшце трэці — гэта Садружнасць у рамках СНД.

Аднак будзем да канца шчырымі: цяперашняя СНД — хутчэй бачнасць, чым рэальнасць. На жаль, аб інтэграцыі больш гаворыцца, чым робіцца. Да гэтага часу не створаны эфектыўныя трансдзяржаўныя структуры.

Палітыкам яўна не хапае волі, каб правесці ў жыццё тое, што яны нястомна дэкларуюць.

Толькі палітычная воля і эфектыўная ўлада могуць давесці справу аб'яднання дзяржаў да заканамернага выніку.

І калі ў бліжэйшы час Садружнасць не атрымае імпульсу да рэальнага аб'яднання, то рэінтэграцыйныя працэсы стануць нормай і могуць яшчэ больш узмацніцца.

І ўсё ж у гэтым пытанні я аптыміст.

Галоўная падстава для аптымізму — гэта развіццё Супольніцтва Беларусі і Расіі і перш за ўсё — праз умацаванне прававой асновы Супольніцтва.

Упэўнены, што чарговы прарыў ва ўзаемаадносінах дзвюх брацкіх дзяржаў адбудзецца 2 красавіка — у дзень першай гадавіны з часу падпісання Дагавора аб стварэнні Супольніцтва.

Прарыў у нашых адносінах павінен ісці не столькі ад інтарэсаў ведамстваў, колькі ад інтарэсаў простага чалавека.

Хочацца верыць, што добры прыклад яднання Беларусі і Расіі паслужыць добрым урокам для будучыні іншых незалежных дзяржаў, якія сёння існуюць на велізарных прасторах калісьці вялікай і цудоўнай краіны — Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Гады "незалежнасці" адназначна выявілі галоўнае.

Альтэрнатывы самай глыбокай і цеснай інтэграцыі быць не можа, як і не можа быць аўтаматычнага вяртання да Савецкага Саюза ў той форме, у якой ён доўгія гады існаваў.

Дарагія сябры!

Я прыйшоў да вас не як да прадстаўнікоў палітычных партый і рухаў, а як да сваіх братоў і сясцёр, да прадстаўнікоў усіх народаў, якія жылі нядаўна дружна ў вялікай краіне.

Галоўны закон гісторыі — гэта пастаянны рух наперад. Застой азначае гібель дзяржавы і знікненне народаў, якія яе насяляюць. Як гаварыў класік: "Прамаруджванне смерці падобна".

Я выказваю глыбокае задавальненне тым, што ў гэты пазітыўны працэс яднання ўсё шырэй і шырэй уключаюцца самі народы. Сведчанне таму — ваш кангрэс, на якім прысутнічаюць прадстаўнікі рабочых, сялян, інтэлігенцыі, пасланцы партый і грамадскіх аб'яднанняў брацкіх рэспублік. Глыбока перакананы, што III Кангрэс народаў СССР унясе свой уклад у рух нашых народаў адзін да аднаго, у пошук эфектыўных формаў інтэграцыі.

Поспехаў вам у гэтай высакароднай і святой справе!

## У ІМЯ СУСВЕТНАЙ РЭВАЛЮЦЫІ






(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

матычнымі падзеямі, што папярэднічалі заключэнню Брэсцкага міру. У летапісе мірных перагавораў ніяк не адзначаны дзень 29 лістапада (12 снежня) 1917 года. А між тым менавіта ў гэты дзень, у разгар перагавораў, абарвалася жыццё аднаго з яго ўдзельнікаў.

Размова ідзе пра У. Скалона. У гістарычнай літаратуры, нават у спецыяльных манаграфічных даследаваннях, якія-небудзь даныя пра Скалона адсутнічаюць. Дык хто ж ён такі і якая яго роля ў гэтых падзеях, што папярэднічалі падпісанню ў сакавіку 1918 года ганебнага міру?

Уладзімір Яўстаф'евіч Скалон нарадзіўся 28 лістапада 1872 года, паходзіў з дваран Магілёўскай губерні. У 1887 годзе быў залічаны ў Пажаскі корпус, які скончыў з адзнакай, за што яго імя было занесена на мармуровую Дошку гонару. Пасля выхаду з корпуса быў узведзены ў падпаручнікі праслаўленага гвардзейскага Сямёнаўскага палка. У 1898 годзе з адзнакай скончыў Акадэмію Генеральнага штаба. Першую сусветную вайну Скалон сустрэў у чыне генерал-маёра пры Вярхоўным Галоўнакамандуючым. 8(21) лістапада 1917 года генерал Дзітэрыхс, у будучыні актыўны паплечнік адмірала Калчака, перадаў Скалону сваю пасаду генерал-кватэрмайстра пры Вярхоўным Галоўнакамандуючым.

20 лістапада, як вядома, у Брэст-Літоўску пачаліся мірныя перагаворы. Ужо ў ходзе іх па прапанове Леніна ў склад дэлегацыі было вырашана ўключыць групу экспертаў па аднаму афіцэру ад Стаўкі, ад усіх франтоў, ад Балтыйскага і Чарнаморскага флатоў. Скалон на гэтых перагаворах прадстаўляў Стаўку.

29 лістапада (12 снежня) эксперты прыбылі ў Брэст-Літоўск. У гэты ж дзень Скалон застрэліўся.

Як жа гэта адбылося? Захаваліся ўспаміны. Адны з іх належаць савецкаму ваеннаму дзеячу, у мінулым таварышу па службе Скалона, Аляксандру Самойлу і былі апублікаваны ў 1958 годзе. Іншыя ўбачылі свет намнога раней і належалі падпалкоўніку Фоке, прадстаўніку Паўночнага фронту, і выйшлі ў Берліне ў 1930 годзе.

Абодва аўтары сведчаць, што ў 15 гадзін дэлегацыя сабралася на прыватную нараду, у разгар якой Скалон раптоўна застрэліўся. Па сведчанні Самойлы, гэтая трагічная падзея была пэўным чынам вытлумачана кіраўніком нямецкай дэлегацыі генералам Гофманам, а значыць, і ўсімі немцамі ў Брэсце. Як паведамляе мемуарыст, Гофман пры знаёмстве з ім, калі Самойла быў вымушаны замяніць загінуўшага Скалона, усклікнуў: "А! Значыць, вы назначаны замяшчаць беднага Скалона, якога давялі вашы бальшавікі! Не вынес небарака ганьбы сваёй краіны!" Для Самойлы незразумелая "фантазія" Скалона — выбраць такія час, месца і нават момант, каб скончыць з "ганьбай краіны". Фоке таксама думаў, што рашэнне пакончыць з сабой было для генерала не загадзя абдуманым, а раптоўным.

Некаторыя схільныя былі думаць, што адной з прычын, якая неяк магла б вытлумачыць трагедыю, з'яўляецца пісьмо, атрыманае Скалонам у дзень смерці ад нейкага "добразычліўца" з паведамленнем аб амаральных паводзінах жонкі генерала. Гэта відавочны паклёп. Скалон ажаніўся толькі за два гады да гэтых падзей з Ганнай Львоўнай Львовай. На руках маладой жанчыны ў момант трагедыі знаходзілася аднагадовая дачка Надзея.

Адказ на гэтае пытанне дае перадсмяротнае пісьмо Скалона свайму сябру, пасланае ім перад ад'ездам у Брэст-Літоўск. Сапраўдная прычына трагедыі заключалася, вядома ж, у разуменні, што ўсё рушыцца, што краіна знаходзіцца на мяжы нацыянальнай катастрофы, прадухіліць якую ўжо не было ніякай магчымасці: фронт распаўся, арміі няма, мір неабходны любой цаной, каб "ратаваць рэвалюцыю". І гэтая цана была заплачана, але з ёю не маглі згадзіцца вельмі і вельмі многія. Пратэставаць не было ніякай магчымасці, заставалася адно — пайсці з жыцця, што і зрабіў Скалон.

Варта адзначыць, што Савецкі ўрад выказаў спачуванне ўдаве Скалона і назначыў пенсію яго дачцэ.

Здавалася б, канва трагічнай падзеі цяпер акрэслена выразна і поўна. І ўсё-такі амаль ніякіх падрабязнасцей, якія б сталі цікавымі не толькі прыхільнікам гісторыка-асветніцкага чціва, але і гісторыкам-прафесіяналам.

Яны, гэтыя жывыя падрабязнасці, змяшчаюцца ў парыжскай газеце "Наше дело" (1939, 25 лютага).

### САМАГУБСТВА ГЕНЕРАЛА СКАЛОНА

12 снежня 1917 года ў Брэст-Літоўску ў поўны разгар савецка-германскіх перагавораў аб сепаратным міры застрэліўся член ваеннай кансультацыі пры савецкай дэлегацыі генерал У. Скалон.

На стале ляжала пакінутая генералам Скалонам запіска, напісаная на абрыўку паперы: "Магілёў. Ганне Львоўне Скалон. Бывай, дарагая, ненаглядная Анюта, не асуджай мяне, прабач, я больш жыць не магу, благаслаўляю цябе і Надзейку. Твой да магілы Валодзя".

"Немцы пачалі праяўляць рыцарства. Цела генерала Скалона было прыбрана, каля яго была пастаўлена ганаровая варта, а пасля, калі цела паклалі ў труну, яго перанеслі ў крапасны праваслаўны сабор. З бязлюднага Брэста ў Беласток была накіравана тэлеграма, па якой экстранным цягніком былі дастаўлены ў стаўку прынца Леапольда Баварскага праваслаўны свяшчэннік, дыякан і царкоўны хор.

Прызначанае на 17 гадзін сумеснае пасяджэнне канферэнцыі было адменена.

Бальшавікі пастараліся заглушыць гэты трагічны выстрал, што прагучаў крывавым асуджэннем іх здрады.

"Наше дело" мае магчымасць апублікаваць невядомы дакумент: пісьмо, якое генерал Скалон пакінуў, ад'язджаючы з Петраграда ў Брэст-Літоўск, адкуль вярнулася толькі яго нежывое цела.

Каб чытачы "Нашего дела" маглі лепш зразумець усю душэўную трагедыю рускага афіцэра, які аддаў перавагу смерці перад здрадай, газета апублікавала расказ яго таварыша па дэлегацыі падпалкоўніка Фоке. Перададзім яго фрагменты.

"Пакінуўшы ў чырвоным Піцеры баласт у выглядзе рабочага, селяніна, салдата і матроса, якія былі аднолькава няздольныя разбірацца ў ваенных пытаннях як афіцэры-кансультанты, і гаварыць праграмныя палітычныя прамовы, як кіраўнікі Смольнага, дэлегацыя выехала ў Брэст.

Знаёмым шляхам праз германскія акопы па вузкакалейцы нас даставілі на станцыю Беркгоф, а вечарам мы выехалі ў Брэст, куды і прыбылі 29 лістапада (12 снежня) у 13 гадзін.

У 15 гадзін дэлегацыя сабралася на прыватную нараду, у якой былі пакінуты ў баку самыя важныя пытанні дагавора, і вялося абмеркаванне прыватнага пытання пра пункты, у якіх збяруцца дэмаркацыйныя камісіі. Параўноўвалі адлегласць да іх, гаварылі аб зручнасцях пуцей зносін з фронтам ад абодвух намечаных гарадоў, і ў ходзе спрэчак з'явілася неабходнасць у карце.

Карты ні ў кога не было.

— У мяне ў рэчах знойдзецца карта. Зараз прынясу.

Спакойна заявіўшы гэта, ген. Скалон пакінуў нас у пакоі нарады і прайшоў у адведзены яму ў тым жа будынку асабісты пакой. Прайшло каля чвэрці гадзіны, ва ўсякім выпадку, не больш дваццаці хвілін, як раптам у пакой нарады рускай дэлегацыі без усялякага папярэджання ўбег лейтэнант Мюлер, вельмі ўсхваляваны і бледны, і гучна крыкнуў па-руску:

— Панове, генерал застрэліўся!

Тут жа быў выкліканы штабны ўрач.

— Рана смяротная. Няма ніякай надзеі.

Праз некалькі хвілін ген. Скалон памёр.

Выстрал быў зроблены з рэвальвера "сміт-весан" буйнога калібра, і ў самагубстве нельга было сумнявацца, таму што моцна заціснуты ў правай руцэ рэвальвер не мог быць укладзены нікім, акрамя самога генерала. Мяркуючы па размяшчэнню цела перад умывальнікам, нябожчык страляўся перад люстэркам. Выстрал быў накіраваны дакладна ў правую скронь, куля прабіла чэрап, шырокай дзіркай выйшла навылет з левай скроні, ударылася ў сцяну і рыкашэтавала на падлогу. Пасля кароткіх пошукаў мы знайшлі яе на дыване".

Мне ўяўляецца, што рашэнне памерці было для генерала не загадзя абдуманым, раптоўным... Прыгнечаным быў настрой у нас, рускіх афіцэраў, сярод якіх генерал Скалон быў старшым.

Я яму зайздрошчу! Так гаварылі некаторыя, і пярэчання, на зайздрасць мёртваму, не знаходзілася. Акрамя знерваванасці, было занадта многа такога, што прымушала бачыць бязлітасную лагічнасць у гэтым самагубстве. Вельмі бязлітасна падсекла карані звыклага жыцця Вялікая Расійская Рэвалюцыя...

А гэтае жыццё рыхтуе кожнаму з нас мноства выпрабаванняў, горычы і крыўды, змешваючы паняцце аб воінскім абавязку з бальшавіцкай граззю і здрадай чырвонай палітыкі..."

Наступнай раніцай пасля смерці генерала Скалона, у 9 гадзін 30 лістапада (13 снежня), адбылося першае сумеснае пасяджэнне, якое генерал Гофман адкрыў уступным словам, выказаўшы глыбокае спачуванне з прычыны гэтай сумнай падзеі.

Труна з целам генерала Скалона была ўстаноўлена ў крапасной царкве. З'явіўся амаль увесь састаў германскага штаба. Штаб і ўсе пяць бакоў, што дагаворваліся аб перамір'і, усклалі на труну нябожчыка вянкі.

Аркестр заіграў "Рэквіем". Трагічна ўрачыстыя медныя гукі, чужыя рускім царкоўным сценам. Гэтымі змрочнымі акордамі ваенная Германія праводзіла рускага генерала за дзень да спынення вайны.

Трэба было сустрэць смерць на варожай тэрыторыі, каб ад ворагаў атрымаць апошнія воінскія ўшанаванні. А там, у Расіі... там у гэтым было б адмоўлена.

Труну вынеслі на руках члены рускай дэлегацыі. На плошчы каля гарнізоннай царквы быў прыгатаваны катафалк — грузавік, прыбраны жалобнымі флагамі і зелянінай. Прынц Леапольд Баварскі сказаў некалькі спачувальных слоў, а атрад германскіх ландштурмістаў салютаваў.

На вакзале — зноў кароткая ліція ля труны, пастаўленай у жалобны вагон, убраны чорнымі, рускімі трохколернымі і германскімі флагамі. Без прамоў, без слоў праводзілі вагон, які застукаў па шпалах у напрамку да фронту, да якога яго праводзілі германскія салдаты.

### ПАСМЯРОТНАЕ ПІСЬМО ГЕНЕРАЛА СКАЛОНА

Перад тым як пакінуць Петраград, каб адправіцца ў Брэст-Літоўск у якасці ваеннага кансультанта пры савецкай дэлегацыі, генерал Скалон перажыў цяжкія хвіліны роздуму і ваганняў, якія адбіліся ў пісьме, адрасаваным ім аднаму са сваіх таварышаў па зброі.

Гэтае пісьмо да нядаўняга часу заставалася невядомым. Яно было апублікавана ўпершыню ў "Нашем деле" ў 1939 годзе. Вось яго тэкст:

**Петраград, 27.XI.1917 г.**

**Мой дарагі Н. Н.!**

**Не здзіўляйцеся, што я пішу Вам, а не каму-небудзь з людзей больш блізкіх. У цяперашні момант "дружба" стала справай больш сур'ёзнай, чым тая, якую мы ведалі ў акопах ці кавалерыйскіх атаках...**

**Вось што я хачу сказаць Вам — вельмі коратка і выказваючы Вам загадзя сваю ўдзячнасць, калі Вы захочаце зберагчы гэтае пісьмо. Гэта шчырае тлумачэнне з боку чалавека, які рыхтуецца здзейсніць "скачок у невядомасць".**

**Троцкі толькі што прапанаваў мне, у Смольным, адправіцца ў Брэст кансультантам пры бальшавіцкай дэлегацыі, каб даваць "парады" ў час перагавораў аб перамір'і, а затым і аб міры.**

**Даручэнне гэтае глыбока мне агіднае. Я ведаю, што размова ідзе проста аб мярзотнай камедыі. "Перамір'е" ўжо заключана: нашы салдаты проста пакідаюць фронт, забіваючы ўласных афіцэраў і рабуючы, і прадаюць свае ружжы і нават гарматы немцам за бутэльку рому ці пачак цыгар. Мір, ён таксама будзе прадыктаваны немцамі, г. зн. немцы дыктуюць, а бальшавікі толькі выконваюць заданне... Я ведаў пра гэта па даных нашай разведкі і разведак французскай і англійскай. Такім чынам, я ведаю, куды я іду і з кім я іду. Але я задаю сабе пытанне: калі я адмоўлюся, той, хто заменіць мяне, ці будзе ён, па крайняй меры, мець досыць мужнасці, каб не прыкрыць здраду подпісам рускага афіцэра! У мяне гэтай мужнасці знойдзецца. Даю Вам слова, што гэта так.**

**З другога боку, у Смольным, відаць, не ўсе і не зусім аднадушныя. Пасля маёй размовы з Троцкім у мяне стварылася ўражанне, што ён хацеў бы "падмануць" немцаў, "цягнуць" і паспрабаваць не "падпісаць". Але Ленін і яго прыслужнікі — Зіноўеў, Падвойскі, Сталін, Крыленка і іншыя, за мір у што б там ні стала, каб пазбегнуць рызыкі быць выгнанымі самімі ж немцамі адтуль, куды іх немцы пасадзілі. Я нават задаю сабе пытанне: чаму гэта Ленін даручыў перагаворы Троцкаму! Але, зрэшты, усё гэта цяпер ужо вельмі малаважна...**

**Істотна тое, што я еду ў Брэст. Бог ведае, ці вярнуся я. Не судзіце мяне занадта строга. Запэўніваю Вас, што я еду туды толькі таму, што хачу яшчэ — калі гэта яшчэ магчыма — паслужыць Расіі.**

**Ваш У. СКАЛОН.**

### III

По меры таго як перагаворы ў Брэст-Літоўску падыходзілі да крытычнай рысы, праціўнікаў працягу перагавораў станавілася ўсё больш. 17(30) студзеня 1918 года былі аднаўлены мірныя перагаворы. На трэцім, завяршаючым іх этапе, марнасць далейшых дыскусій была відавочнай для абодвух бакоў, але закрываць канферэнцыю не спяшаліся.

28 студзеня (10 лютага) на вячэрнім пасяджэнні канферэнцыі Троцкі ад імя Савецкага ўрада абвясціў дэкларацыю, у якой змяшчалася адмова ад падпісання анексіяністскага дагавора і ў той жа час стан вайны з Германіяй, Аўстра-Венгрыяй, Турцыяй і Балгарыяй аб'яўляўся спыненым. Адзначалася таксама, што расійскім войскам будзе аддадзены загад аб поўнай дэмабілізацыі па ўсім фронце.

Вестка аб разрыве перагавораў, мяркуючы па існуючых дакументах і матэрыялах, была ўспрынята ў бальшавіцкай партыі і ў краіне ў цэлым вельмі пазітыўна. Аптымізму прыбаўляла, у прыватнасці, тое, што савецкая дэлегацыя вярнулася з Брэст-Літоўска з амаль поўнай упэўненасцю ў немагчымасці германскага наступлення. Зацішша на фронце працягвалася нядоўга. 16 лютага германскае камандаванне заявіла аб спыненні перамір'я і ўзнаўленні з 12 гадзін дня 18 лютага ваенных дзеянняў.

Факт нямецкага наступлення стаў відавочным к вечару 18 лютага: немцы паскораным маршам рушылі да Дзвінска. Ва ўзнікшай сітуацыі Троцкі далучыўся да прыхільнікаў Леніна і разам з імі ў той жа вечар на пасяджэнні ЦК прагаласаваў за неадкладны зварот да германскага ўрада з прапановай неадкладнага заключэння міру.

Германія запатрабавала ва ультыматыўнай форме прыняць новыя ўмовы міру да 7 гадзін раніцы 24 лютага, пасля чаго прадстаўнікам Савецкай Расіі прапаноўвалася неадкладна выехаць у Брэст-Літоўск і на працягу трох дзён падпісаць мірны дагавор, які затым трэба было ратыфікаваць за два тыдні.

Новы германскі ультыматум змяшчаў яшчэ больш вялікія тэрытарыяльныя прэтэнзіі: адарванне ад Расіі не толькі Польшчы, Літвы, Курляндыі і часткі Беларусі, але і ўсёй Эстляндыі і Ліфляндыі. Расія павінна была вывесці свае войскі з тэрыторыі Украіны і Фінляндыі і заключыць мір з урадам антысавецкай Цэнтральнай Рады. Надзвычай цяжкімі былі эканамічныя і ваенна-палітычныя ўмовы дагавора.

24 лютага 1918 года сабраўся ЦВК. З кароткім дакладам выступіў Ленін. Зыход справы вырашыла праведзенае ў канцы пасяджэння пайменнае галасаванне: 116 галасамі супраць 85 пры 26 устрымаўшыхся была адобрана рэзалюцыя бальшавіцкай фракцыі аб прыняцці германскіх умоў міру. У тую ж раніцу адпаведная пастанова была вынесена Саўнаркомам, пра што неадкладна было паведамлена германскаму ўраду.

У ноч з 24 на 25 лютага ў Брэст-Літоўск для падпісання мірнага дагавора выехала савецкая дэлегацыя ў складзе Г. Сакалькова, Л. Карахана, Г. Чычэрына і Г. Пятроўскага. 1 сакавіка савецкай дэлегацыі быў уручаны канчатковы тэкст умоў мірнага дагавора, яшчэ больш цяжкіх, чым тыя, што былі ва ультыматуме ад 21 лютага: у яго было дабаўлена патрабаванне аб адарванні Турцыяй ад Расіі акруг Ардагана, Карса і Батума. 3 сакавіка мірны дагавор быў падпісаны. Толькі пасля гэтага германскае вярхоўнае камандаванне аддало загад аб спыненні ваенных дзеянняў у Расіі.

15 сакавіка IV Надзвычайны з'езд Саветаў па прапанове бальшавіцкай фракцыі з'езда пайменным галасаваннем ратыфікаваў мірны дагавор. Праз некалькі месяцаў пасля ратыфікацыі Брэсцкага дагавора, у лістападзе 1918 года, у Германіі адбылася рэвалюцыя. Яна была, аднак, не сацыялістычнай, як чакалі бальшавікі, а буржуазнай. Але яе перамога, якая азначала крах Германскай імперыі, дала магчымасць ВЦВК прыняць 13 лістапада пастанову аб ануляванні гвалтоўнага дагавора з Германіяй і яе саюзнікамі. У гэты ж дзень ЦВК РСФСР звярнуўся з адозвай да працоўных нацыянальных ускраін, заклікаючы аб'яднаць усе сілы для барацьбы з акупантамі. Пачалося масавае выгнанне нямецкіх захопнікаў з акупіраванай тэрыторыі Беларусі.

Якое ж значэнне Брэсцкага міру ў гісторыі нашай краіны? Высветліць гэта можна, толькі паспрабаваўшы рэканструяваць сістэму маральных і светапоглядных каардынат, у якой жылі бальшавікі і прадстаўнікі іншых рэвалюцыйных партый. Трэба зразумець, што сярод іх арыенціраў Савецкая ўлада ў Расіі складала толькі частку вялікага цэлага — сусветнай сацыялістычнай рэвалюцыі, перамога якой здавалася блізкай. Для іх не існавала разумення перамогі сацыялізму ў адной краіне. Яны яго папросту адхілялі. У гэтай сістэме каардынат жыў і Ленін. "Калі мы ўзялі ўсю справу ў рукі адной бальшавіцкай партыі, — гаварыў ён на VII з'ездзе РКП(б), — то мы бралі яе на сябе, будучы ўпэўненымі, што рэвалюцыя спее ва ўсіх краінах, і ў рэшце рэшт... міжнародная сацыялістычная рэвалюцыя прыйдзе"...

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

*ПАСЛЯ ЮБІЛЕЮ Э. ВАЙВАДЗІША*

# ДОБРАЕ СВЯТЛО НАСТАЎНІКА І ПАЭТА

Як паведамлялася ў "Голасе Радзімы", 7-га лютага споўнілася 100 гадоў беларускаму настаўніку і паэту Эдварду Вайвадзішу, які жыве ў вёсцы Вайвады Краслаўскага раёна ў Латвіі. Хачу трохі расказаць пра гэтага цудоўнага Чалавека.

**Пралягла мая дарога**
**Ад калыскі да магілы.**
**Ад жыцця я ўзяў нямнога,**
**А жыццю аддаў усе сілы.**

Гэтыя радкі — са зборніка вершаў, паэмы і згадак Эдварда Вайвадзіша, які ў мінулым годзе ўбачыў свет у Мінску ў выдавецтве Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны. Зборнік выдадзены коштам колішняга вучня Вайвадзіша, зараз жыхара Нью-Йорка Франціша Бартуля.

У прадмове да зборніка спадар Бартуль піша: "Настаўнікам роднай мовы ў нас працаваў малады настаўнік Эдвард Вайвадзіш. Вучні пацягнуліся да яго, а ён акрамя ведаў панёс у нашы душы любоў да беларускага слова, а праз яе навучыў шанаваць традыцыі продкаў, любіць свой народ і сваю Бацькаўшчыну. Я назаўсёды запомніў словы настаўніка, што чалавек можа праявіць сябе максімальна толькі тады, калі ён усведамляе сябе нацыянальна. Я канчаткова зразумеў і ацаніў гэтыя словы, знаходзячыся ў эміграцыі... Калі я пасля доўгіх гадоў жыцця за акіянам упершыню прыехаў на Радзіму, адным з першых маіх візітаў была вёска Вайвады і сустрэча з настаўнікам. (Мы не бачыліся з 1939 па 1992 год). Састарэўшы фізічна, у душы ён застаўся такім жа маладым чалавекам, якога я калісь ведаў і якому буду ўдзячны ўсё жыццё..."

Відаць, так трэба было Богу і пасланніку Усявышняга — лёсу, каб, заявіўшы пра сябе як пра беларускага паэта яшчэ ў 1926 годзе ў калектыўным зборніку "Першы крок", Эдвард Вайвадзіш дачакаўся гэтага зборніка, як вынік — заслужанага прызнання пры жыцці. Бо спадзявацца на выдавецкую дапамогу з боку дзяржаўных структур зараз вельмі складана, калі не дарэмна. Не ўбачыў бы гэты зборнік божага свету, калі б не шчыры сябар латвійскіх беларусаў, старшыня таварыства дружбы "Беларусь — Латвія" паэт Сяргей Панізьнік, які з'яўляецца ўкладальнікам і рэдактарам гэтага зборніка...

Чытаючы ўспаміны Эдварда Вайвадзіша, даведваемся, што нарадзіўся ён у гэтай жа вёсцы Вайвады, у сям'і, якая мела чатырох дзяцей. Вучыўся спачатку ў прыватнага настаўніка ў памесці Індрыца, у Друйскай царкоўнапрыходскай школе, у Дрысенскім вучылішчы, якое скончыў з пахвальнай граматай. Дапамагала яму ў вучобе ўласнымі грашыма мясцовая мецэнатка пані Вярыга. Працаваў пісарам валаснай управы. Калі пачалася першая сусветная вайна, паехаў у Петраград, дзе паступіў на курсы паштова-тэлеграфных чыноўнікаў, пасля якіх год адпрацаваў на Галоўпаштамце. Затым скончыў двухгадовыя курсы Чарняева. У дзень бальшавіцкага перавароту 7 лістапада знаходзіўся на беразе Нявы, насупраць Зімняга, сачыў за развіццём падзей. Калі пачаліся голад, разруха, у 1918 годзе вярнуўся ў родныя мясціны.

У 1922 годзе адкрыліся першыя беларускія школы, працаваў спачатку настаўнікам, потым доўгі час — дырэктарам Вайвадскай школы. У час другой сусветнай вайны быў арыштаваны немцамі



і адпраўлены ў лагер на востраў Руген, адкуль праз год яго вызвалілі па хадайніцтву Беларускага школьнага аддзела ў Даўгаўпілсе. Калі пасля вайны прыйшлі калгасы, даводзілася сумяшчаць працу настаўніка і калгасніка: адрабляць працадні за цяжкахворую жонку, якая памерла роўна за дзесяць гадоў да яго стогадовага юбілею.

З Даўгаўпілсам Эдварда Вайвадзіша родніць тое, што тут ён чатыры гады вучыўся на настаўніцкіх курсах пры Даўгаўпілскай дзяржаўнай беларускай гімназіі, дзе ў 1928 годзе атрымаў атэстат, падпісаны яе дырэктарам Сяргеем Сахаравым, пазнаёміўся з рэдактарам газеты "Голас беларуса" Кастусём Езавітавым, які і ўзяў яго першыя вершы да друку...

Таму і была такой хвалюючай сустрэча з Эдвардам Вайвадзішам на святкаванні яго 100-годдзя. З кветкамі, падарункамі і цёплымі словамі віншаванняў да юбіляра звярнуліся старшыня Краслаўскага раённага савета Гунар Упэніекс і яго намеснік Язэп Дабкевіч, генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Даўгаўпілсе Анатоль Жалтоўскі, прадстаўнік Міністэрства культуры Беларусі Любоў Балаўнёва, намеснік старшыні беларускага таварыства "Прамень" у Рызе Алесь Карповіч, рэдактар газеты беларусаў Латвіі "Прамень" Лявон Шакавец, старшыня даўгаўпілскага беларускага культурна-асветніцкага таварыства "Уздым" Станіслаў Валодзька і настаўніца беларускай нядзельнай школы ў Даўгаўпілсе Таццяна Бучаль. Кветкі і добрыя пажаданні віноўніку ўрачыстасці перадала старшыня таварыства дружбы "Латвія — Беларусь" Інара Мукане. Паэт Сяргей Панізьнік, сказаўшы прачулыя словы, уручыў Эдварду Вайвадзішу членскі білет Саюза пісьменнікаў Беларусі, сябрам якога Эдвард Вайвадзіш стаў за некалькі дзён да свайго 100-годдзя. Павіншаваць юбіляра прыйшлі таксама яго колішнія вучні, родныя, суседзі. Шматлікім гасцям Эдвард Людвігавіч адказваў на той мове, на якой да яго звярталіся: латышскай, польскай, беларускай (ведае яшчэ і нямецкую). Праўда, гаварыць яму было цяжкавата: нядаўна перанёс прыступ інсульту. Не мог ён бачыць і нацэленыя на яго фота- і тэлекамеры: канчаткова страціў зрок. Запалі ў душу сказаныя ім словы: "Мне сёння здаецца, што я ўжо ў раі — нарэшце жыццё стала лепшым і людзі дабрэйшымі..."

"Гэта, бадай што, самы шчаслівы дзень у маім жыцці", — сказаў мне на развітанне Сяргей Панізьнік. Дык што ўжо казаць пра самога юбіляра...

Добрым прыкладам кожнаму беларусу, які жыве ў Латвіі, можа быць жыццё настаўніка і паэта, Чалавека з вялікай літары Эдварда Вайвадзіша. У сваіх успамінах ён гаворыць: "Мне ўдавалася сумяшчаць і павагу да Латвійскай дзяржавы, і любоў да беларушчыны".

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА.**

**НА ЗДЫМКУ: Э.ВАЙВАДЗІШ адказвае на прывітанне С. ПАНІЗЬНІКА.**

## У СУТОКУ АРШЫЦЫ І ДНЯПРА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

**Орша мела выгаднае геаграфічнае становішча і таму хутка стала транзітным цэнтрам, пачатковым пунктам вялікага гандлёвага шляху "гасцінца купецкага", які праходзіў па тэрыторыі Беларусі з усходу на захад. Горад меў гандлёвыя сувязі з Маскоўскім княствам, Польшчай, Прыбалтыкай, Украінай. У XVII стагоддзі ў Оршы было каля пяці тысяч жыхароў, у ёй існавала 26 відаў рамёстваў.**

**З таго далёкага мінулага ў наш сённяшні дзень прабіваецца светлы праменьчык, які сведчыць, што людзі на гэтамй зямлі заўсёды цягнуліся да ведаў. Да нашых дзён захаваліся рэшткі цаглянай сцяны і невялікай царквы былога Куцеінскага манастыра. У 1630 годзе на тэрыторыі манастыра была заснавана праваслаўная друкарня, адна з буйнейшых на тэрыторыі Беларусі. Вядомым друкаром Спірыдонам Собалем у 1631 годзе быў выпушчаны славуты "Буквар", па якому вучыліся нават за мяжой.**

**У Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве захоўваецца экземпляр "Буквара", у ім ёсць паметкі на англійскай і нямецкай мовах. Больш чым за дваццаць гадоў існавання друкарні тут было надрукавана каля 30 кніг агульным тыражом больш пяці тысяч экземпляраў. Нацыянальныя бібліятэкі Варшавы, Кракава, Дубліна, Оксфарда, Кембрыджа, Капенгагена захоўваюць гэтыя выданні і лічаць іх рэдкімі старажытнымі кнігамі.**

**Горад, які заўсёды быў значным транзітным пунктам, не абмінула ні адна вайна. Ён многа разоў разбураўся і аднаўляўся. Пасля другой сусветнай вайны адбудаваная Орша стала вядома сваім ільнокамбінатам, станкабудаўнічым заводам і заводам лёгкага машынабудавання.**

**Зараз Орша перажывае тыя ж цяжкасці, тыя ж праблемы, што і ўсе беларускія прамысловыя гарады: спад у прамысловасці, беспрацоўе. Але, як і іншыя, не губляе надзеі на лепшае, на аднаўленне, на годнае жыццё.**

**НА ЗДЫМКАХ: сучасная Орша; будынак гістарычнага музея; вуліца Мінская; помнік "Кацюшам".**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**










# КАЛІ ПЕСНЯ ЖЫВЕ БЕЛАРУСА — БУДЗЕ ЖЫЦЬ БЕЛАРУСКІ НАРОД...

І яшчэ адна цытата пра вынік творчых выступленняў беларускіх артыстаў: "Сельскагаспадарчая выстаўка і паказацельныя канцэрты Беларускага дзяржаўнага хору пад кіраўніцтвам Тэраўскага выклікалі вялікую зацікаўленасьць да беларускае песьні і музыкі шырокіх грамадзянскіх і музычных колаў Масквы. Можна без праўвялічэння сказаць, што беларуская песня ўзбунтавала маскоўскіх музыкантаў і кампазітараў і цяпер самым энергічным спосабам ідзе разгляд музычных скарбаў і музычных інструментаў беларускага народу ў Дзяржаўным Інстытуце Народнае Музыкі, так званым "Гімне".

Урачыстым і радасным выдаўся для У. Тэраўскага дзень 14 снежня 1923 года, у які адбылося ўрачыстае пасяджэнне, прысвечанае 15-годдзю творчай, ці, як тады казалі, песнярскай працы Цішкі Гартнага (Зміцера Жылуновіча). Калі адчыніўся вечар пад гукі міжнароднага гімна, выкананага аркестрам БДТ, то скончыўся ён беларускай марсельезай "Ад веку мы спалі", якую выканалі аркестр і хор БДТ. Хор выканаў кантату ў гонар юбіляра, напісаную У. Тэраўскім на пасвячоны яму верш З. Бядулі (пра гэта можна было прачытаць сярод віншаванняў).

Потым хор спяваў песні на вершы Гартнага, пераложаныя на музыку У. Тэраўскім, А. Ягоравым і М. Равенскім.

1924 год адметны ў гісторыі Беларусі тым, што палітыка нацыянальнага адраджэння, палітыка беларусізацыі набыла статус дзяржаўнай і, такім чынам, павінна была б карыстацца падтрымкай улады. Павінны былі шанавацца і беларускія працаўнікі, асабліва такія, як Уладзімір Тэраўскі. Якой "пашанай" быў адзначаны гэты нястомны працаўнік, даведваемся з пратакола Цэнтральнай Кантрольнай Камісіі КП(б)Б ад 16 снежня. Цытуем на мове арыгінала:

"Присутствовали: Никитин, Вестфаль, Бенек, Бейлин.

Слушали: О юбилее белорусского хормейстера гр. Терравского и печатании об этом в газете "Беларуская вёска" (т. Никитин, письмо т. Криницкого).

Постановили: Поручить расследовать т. Бейлину и собщить Президиуму ЦКК".

На вялікі жаль, ні пісьма Крыніцкага, ні вынікаў "расследования" выявіць у архіве не ўдалося.

Які ж крымінал утрымлівала публікацыя "Беларускай вёскі"? На першай старонцы газеты, справа ўнізе знаходзім невялікі артыкул (без аўтара) пад назвай "Трыццаць пяць год на варце беларускага характва" з падзагалоўкам "Да 35-годдзя працы хормайстэра Беларускага Дзяржаўнага Тэатру Уладзіміра Васілевіча Тэраўскага па збіранню і гарманізацыі беларускіх народных песняў".

Перачытаем яго сёння. "У час панавання царскае ўлады беларускі народ, апрача прыгнечання сацыяльнага... цярпеў яшчэ прыгнечанне нацыянальнае. Беларуская мова, беларуская культурнасць знаходзілася пад уціскам. Культура беларускага народа не развівалася, а гібела. Але яна не згінула, бо ня можа загінуць культура цэлага народу, які жыве; хоць пад прыгнечаннем, але жыве. Беларускі народ у глыбіні сваёй захаваў сваё нацыянальнае характва. Жыла беларуская літаратура, жыло беларускае мастацтва, жыла і беларуская песня.

Яна — беларуская песня, зычэла на полі, у хаце, у гадзіну вясёласці і суму аб нядолі. Беларускі народ высоўваў з сваіх гушчаў асоб, якія з'яўляліся як бы асобнымі выявіцелямі яго культуры, яго характва. Адной з такіх асобаў з'яўляецца Уладзімір Васілевіч Тэраўскі.

Сам беларус, ён з малых гадоў захапіўся беларускай песняй і ўсё сваё жыццё аддаў ёй.

Уладзімір Васілевіч пачаў збіраць беларускія песні, запісваць іх. Запісаў ён мелодыю (напеў) песняў і такім чынам сабраў цэлы зборнік беларускіх народных песняў з нотамі, якія выйшлі асобнай кніжкай у 1922 годзе.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, калі беларускі народ разам з другімі народамі атрымаў магчымасць адраджэння і далейшага развіцця свае культуры — адрадзіўся і беларускі тэатр. І вось Уладзімір Васілевіч стаў хормайстрам (кіраўніком хору) БДТ у Менску.

Хутка спаўняецца 35-годдзе працы Уладзіміра Васілевіча па збіранню і гарманізацыі беларускіх песняў.

К гэтаму дню У. В. Тэраўскаму ад імя сялянскай газеты "Беларуская вёска" шчырае прывітанне".

Вось такі артыкул. Як бачым — нічога антысавецкага. Толькі цеплыня, замілаванне працай вялікага майстра, улюбёнага ў беларускую песню.

А юбілейны артыкул, які ўшаноўваў працу слыннага хормайстра, усё ж з'явіўся. Аўтарам яго быў удзельнік хору Андрэй Александровіч. Апублікаваны ён быў у 5-м нумары "Маладняка" пад назвай "Дзесяць год працы". Мелася на ўвазе толькі праца кіраўніка Беларускага хору.

Нягледзячы на такую "пільнасць" партыйных улад, Тарэўскі працягваў займацца любімай справай.

Рыхтуецца ўзбуйненне Беларусі, далучэнне Віцебшчыны і Гомельшчыны. БДТ-1 адпраўляецца на гастролі ў Віцебск, дзе яшчэ не было свайго тэатра. Віцебскі люд прыязна сустрэў пастаноўкі. Вось што пісала "Савецкая Беларусь" 22 мая 1924 года пра гастролі БДТ у Віцебску:

"Беларускі тэатр, беларуская песня, а разам з імі і беларускае слова глыбей западаюць у душу чалавека і прымушаюць нават ворагаў любіць сярмяжны люд, які меў і мае сваю простую, але не зусім выяўленую культуру. Усё гэта можна заўважыць на тварах тых соцень людзей, якія бываюць на пастаноўках Беларускага Дзяржаўнага Акадэмічнага Тэатра".

Пасля тэатральнай дыскусіі, вынікі якой былі падведзены ў снежні 1928 года, стан спраў у тэатры пагоршыўся. Усё нацыянальнае вынішчалася, пераважалі індустрыяльныя тэмы (верацёны, гуты, бронецягнікі, масты). На чале БДТ-1 ЦК КП(б)Б паставіў новага дырэктара, Алеся Некрашэвіча, які заўзята праводзіў палітыку інтэрнацыяналізацыі і класавага змагання. Вось што ён пісаў у артыкуле "Вынікі тэатральнага сезону" ў чэрвені 1929 года (газета "Савецкая Беларусь"): "Працоўны глядач Беларусі дзесяцігоддзямі выхоўваўся аб'едкамі ад мастацтва. Правінцыяльныя традыцыі вельмі глыбока сядзяць у ім яшчэ і цяпер. Што гэта так, сведчыць поспех, ну напрыклад, п'есы "Над Нёманам" у БДТ-1. Гэта — цяжкая спадчына. Гэта яна дае магчымасць "подвизаться" на сцэнах і эстрадах Беларусі ўсялякага чыну і парадку "калектывам драмы і камедыі", эстраднякам, падмаскіраваным пад сучаснасць, былым кантарам, цяперака "исполнителям еврейских народных песен" ды іншай саранчы". І раіў адмовіцца ад правінцыялізму, хоць і прызнаваў, што пастаноўкі "Запяюць верацёны" і "Бронецягнік" былі нуднымі і невыразнымі. "Аднэй з актуальных задач беларускага тэатру з'яўляецца адвучыць гледача ад гэтых традыцый" — вось мэта, якую ён абвяшчаў. Мелася на ўвазе адвучыць ад нацыянальных традыцый, ад самабытнасці. І адвучвалі. Ваяўнічае невуцтва дыктавала свае густы, свае прыярытэты.

Дык ці мог знайсці прымяненне сваім здольнасцям Уладзімір Тэраўскі ў такім тэатры? Вядома ж, не. Цяжкімі былі і матэрыяльныя варункі, падводзіла здароўе, ускладніліся сямейныя абставіны. Вельмі каштоўным сведчаннем становішча Тэраўскага ў гэты час з'яўляецца яго ліст да Язэпа Дылы, земляка і былога дырэктара. Па зместу яго можна датаваць прыблізна 1929 годам.

"Высокапаважаны Язэп Лявонавіч!

Пасылаю даведку аб маёй музычнай працы, прашу Вас, як найлепшага і шчыра спачуваючага ў чужым горы чалавека, пры разглядзе майго хадайніцтва, як мага ратаваць мяне. Ляжу ўжо тры месяцы хворы (ішыяс — радыкуліт) і не ведаю, калі і ўстану. Жонка мая таксама ляжыць у бальніцы ў "кіпцех сьмерці". Спадзеі на яе жыцце мала, але калі б яна і ачуняла, то далей ложка не пойдзе, будучы спаралiжавана. Для ўхода за ёй патрэбна хатняя работніца. З Масквы на гэтых днёх прыязджае на жыцце ка мне стары беспрацоўны мой брат 65 гадоў. На поўным утрыманні ў мяне жыве сірата-пляменнік. Вось колькі едакоў патрабуюць хлеба, а сам я хворы. Пішу я гэта, прашу Вас, Я. Л., калі будзе патрэбным пры вызначэнні мне пэнсіі звярнуць увагу на мае гэткае сямейнае становішча. Апошняя тэатральная стаўка маёй пэнсіі была у 125 рублёў, але чамусьці ў мінулым сезоне 1928/1929 гг. мне пэнсію скарацілі на 25 р., грунтуючыся як бы на тым, што ў тэатры няма музычных п'ес, і хормайстару малая нагрузка. Хіба ж я ў гэтым быў вінен? Даводжу і гэта да Вашага ведама на ўсякі выпадак.

Яшчэ раз прашу Вашай ласкі, Я. Л., не адмоўцеся дапамагчы мне ў вызначэнні мне павялічанай пэнсіі, бо зарабіць ужо я не магу і мае іждзівенцы таксама.

Уся мая спадзея толькі на Вас. Па хворасці я за сябе прасіць не магу і даручыць няма каму. Выбачайце, што я Вас турбую!

Паважаючы Вас і шчыра ўдзячны

Ул. Тэраўскі".

1930 год прынёс новыя ўзрушэнні. Супраць беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі была сфабрыкавана справа так званага "Саюза вызвалення Беларусі". Беларускіх інтэлігентаў абвінавачвалі ў нацыянал-дэмакратызме, які атаясамліваўся з контррэвалюцыйнай антысавецкай дзейнасцю. Здань нацыянал-дэмакратызму мроілася бальшавіцкай уладзе ўжо цэлае дзесяцігоддзе. І вось нарэшце ў 1930 годзе з'явілася магчымасць расправіцца з лепшымі сынамі Беларусі. Па справе СВБ было арыштавана 108 дзеячаў навукі і культуры.

Дзіўна, што ацалеў і не быў арыштаваны У. Тэраўскі. Нам цяжка ўявіць, што ён адчуваў, аб чым думаў, пра што турбаваўся. Вельмі скупыя звесткі знаходзім пра гэты перыяд яго дзейнасці. Вось адна з іх: Тэраўскі кіраваў хорам БДУ з 1925 года, але ў 1930 годзе быў зняты з кіраўніцтва, пасля чаго хор раскідаўся.

В. Селях-Качанскі, тэатральны дзеяч, успамінаў пазней, як у 1927 годзе, пасля святкавання 10-х угодкаў Кастрычніцкай рэвалюцыі, па загаду з Масквы, дзе выступала беларуская капэла, была зменена нацыянальная вопратка на цёмначырвоныя сукенкі. На жаль, чорнабелыя фотаздымкі хору Тэраўскага 1930 года не могуць даць уяўлення аб колеры сукенак, але на іх добра відаць, што гэтая уніформа нічым і блізка не напамінае яркія нацыянальныя строі харыстаў 20-х гадоў. Калі яны былі зняты з удзельнікаў — невядома.

Але савецкая ўлада не пакінула ў спакоі немаладога ўжо чалавека. Успомнілі 1921 год, абвінаваціўшы ў былых "грахах".

17 жніўня 1938 года У. Тэраўскі быў арыштаваны як удзельнік нацыянал-фашысцкай арганізацыі. У ходзе следства яму было прад'яўлена новае абвінавачванне — агент польскай разведкі. Справа стваралася на аснове яго паказанняў і паказанняў двух сведак, а дакладней, ілжэсведак, г. зн. фальшывых, надуманых паказанняў.

Пры арышце ў анкеце было адзначана наступнае: беларус, беспартыйны, удавец, сын папа, былы дзяк... быў псаломшчыкам Пярэспенскай царквы ў г. Мінску і рэгентам царкоўнага хору Мікалаеўскага сабора, а затым у Пярэспенскай царкве, дзе служыў да 1933 года, пасля чаго да цяперашняга часу — без пэўных заняткаў, жыве на вул. Крапоткінскай, 74/41, кв. 4. Можна ўявіць сабе, што гэта было за жыццё: на працягу 5-ці гадоў "без пэўных заняткаў"!

1 лістапада 1938 года пастановай Асобай тройкі НКУС БССР Уладзімір Тэраўскі быў прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 10 лістапада 1938 года ў Мінску. Праз два тыдні яму споўнілася б 67 гадоў.

На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў імя Тэраўскага не ўпаміналася. Пасля XX з'езда КПСС пачалася рэабілітацыя ахвяр сталінскага рэжыму.

Пастанова Асобай тройкі НКУС БССР ад 1 лістапада 1938 года адносна Тэраўскага Уладзіміра Васільевіча была адменена, і справа на яго з-за адсутнасці доказаў спынена. Рэабілітаваны 1 кастрычніка 1957 года. Хадайнічалі за яго Мікалай Аладаў, вядомы кампазітар, які пазнаёміўся з ім у 1923 годзе ў Маскве, Барыс Платонаў, народны артыст БССР, які таксама спяваў у хоры і ведаў Тэраўскага з 1913 года, а таксама ўдзельнік хору БДТ Уладзімір Саладуха, які быў знаёмы з рэпрэсіраваным з 1910 года.

Тэраўскі жыў і тварыў на зломе дзвюх эпох, і ўсе іх бурныя і драматычныя падзеі не маглі не адбіцца на яго лёсе. Падчас сталінскага тэрору кампазітар, як і большасць нацыянальна свядомай беларускай інтэлігенцыі, быў закатаваны бальшавіцкімі інквізітарамі. Былі расцярушаны і раскіданы ягоная каштоўная бібліятэка, асабісты архіў — багацейшая скарбніца беларускай песеннай спадчыны. Забаранялася згадваць само імя кампазітара. Дарэмна! Апосталы рана ці позна вяртаюцца на бацькаўшчыну. Намаганнямі руплівцаў беларушчыны постаць Уладзіміра Тэраўскага вернута нашай культуры. Але ці да канца мы асэнсавалі здзейсненае гэтым чалавекам? Думаецца, не. Спатрэбіцца яшчэ вялікая праца гісторыкаў, мастацтвазнаўцаў, фалькларыстаў, каб па каліўцу сабраць творчыя здабыткі музыканта, зняць усе "белыя плямы" з яго біяграфіі.

**Аляксандра ГЕСЬ,**
**Уладзімір ЛЯХОЎСКІ.**



**НА ЗДЫМКУ: "касцяк" асноўнага складу Беларускага дзяржаўнага хору У. Тэраўскага. Мінск, зіма 1930 года. Праз некалькі месяцаў многія з харыстаў трапяць на "беседы" ў АДПУ па справе "Саюза вызвалення Беларусі".**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 8—12.**

## *ВЫСТАВЫ*





**Паглядзець на творы Пушкіна віцябчане прыходзілі ў эстэтычны цэнтр "Маладзік", чатыры залы якога былі заняты персанальнай выставай пад назвай "Біяграфія". Пра сваё жыццё Аляксандр Пушкін расказаў фатаграфіямі, малюнкамі, жывапіснымі палотнамі.**

**НА ЗДЫМКАХ: мастак Аляксандр ПУШКІН; знаёмства з экспазіцыяй выставы.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

## *ЮНЫ ТАЛЕНТ*



**На пытанне: "Што падабаецца больш — фартэпіяна ці віяланчэль!" Каця Туровіч адказаць пакуль не можа, але на абодвух інструментах іграе з аднолькавым жаданнем і ахвотай. У гомельскай музычнай школе № 5 яна атрымлівае прафесійную музычную адукацыю. Даводзілася і выступаць перад слухачамі. Гавораць, прымалі Кацю вельмі добра.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

*ДА 75-ГОДДЗЯ З ДНЯ СМЕРЦІ ЯДВІГІНА Ш.*

# НЕВЯДОМЫ ВЕРШ

Ядвігін Ш. слынны ў нашай літаратуры найперш як празаік, гумарыст, аўтар шматлікіх баек у прозе. Але ведаем мы таксама яго "Дзеда Завалу", напісанага вершам. Упершыню паэма была надрукавана ў "Нашай Ніве" 26/8/IV 1909 года. Няцяжка здагадацца, чаму Ядвігін Ш. паспрабаваў сябе ў паэтычнай форме: яму патрэбна было расказаць пра даўно мінулыя падзеі, падзеі рамантычныя, авеяныя паданнямі, легендамі. Звыклы для яго жанр — байка ў прозе — тут не падыходзіў, і ён піша паэму. Але вось пытанне — гэта першы яго паэтычны твор ці былі іншыя? Ці пісаў ён перад гэтым вершы? Пэўна ж, пісаў. Вершам, прыкладам, ён павіншаваў "Нашу Ніву" з яе трэцімі ўгодкамі. Былі ў Ядвігіна Ш. і іншыя вершаваныя экспромты, але ён ім вялікай увагі не надаваў. Яны ляжалі ў ягоным пісьменніцкім стале. Зрэдку ён іх згадваў за якой-небудзь бяседай.

Адзін з ягоных вершаў такім вось шляхам дайшоў да нашага часу. Называецца ён "На дарозе".

**Па дарозе, крутой, вузкай**
**Ехала фурманка.**
**Вёз з мястэчка ды ў вёску**
**Жыда Сроля Янка.**

**А з той вёскі ды ў мястэчка**
**Дарогай той самай**
**Вёз Рыгор Абрамку.**
**Тпру! Стой над ямай,**
**Размінуцца цесна.**
**Не уступіць Янка:**
**Яго першы ў вёсцы**
**Лічыўся Буланка.**
**Хоць з "прызыву" выйшаў**
**І у нагах трасца,**
**Белы конь Рыгораў**
**Нябось не паддасца.**
**Янка неяк набок**
**З возу спрытна скочыў,**
**Пугай па Абрамку.**
**Рыгор гэтак звочыў.**
**Што! Як ты смееш!**
**Што за твая воля!**
**Б'еш майго Абрамку,**
**Буду біць я Сроля.**
**Па жыдоўскіх плячах**
**Засвісцелі пугі.**
**Крэкчуць Рыгор з Янкам,**
**З вялікай натугі.**

**Гвалту нарабілі**
**Бедныя жыдкі.**
**Просяць: "Хрысціяне, хрысціяне!**
**Памірыцися вы!"**

Згаданы верш з памяці ўнучкі Ядвігіна Ш. Алесі Лёсік. Ён дагэтуль ніколі і нідзе не друкаваўся. Пра верш яна паведаміла (Алеся Лёсік з даваеннай пары змушана праз рэпрэсію бацькі жыве за межамі Беларусі): "Я для Вас напішу адзін дзядулеў верш, які чытала мне мама. Ён смешны, і я добра ведала, што яго нідзе нельга чытаць. Гэта дзядуля напісаў для сваіх дзяцей, каб пасмяшыць..."

Выказваючы Алесі Лёсік шчырую падзяку за верш, з адным не магу пагадзіцца: згаданы верш якраз тыповы для беларускай рэчаіснасці XIX стагоддзя. Прыгадаем хаця б вядомы Багушэвічаў экспромт "Падарожныя жыды":

**З двух мястэчкаў два падвозца**
**Двух жыдоў вязлі напроці.**
**Спаткаліся ж на вузенькай дарожцы,**
**І ні адзін не ўступае па ахвоце:**
**Той кажа: "Парха ты вязеш, дарогу дай!"**
**А той крычыць: "Ты пана мне не лай,**
**Бо я твайго і біць гатоў!.."**

**І біч смалёны тут завёў,**
**А той ў рукі ды бічышча...**
**І замахалі так, аж свішча!**

**Жыдкі ў просьбу, каб гадзіцца.**
**Куды табе! — ні прыступіцца;**
**Так б'юць, аж кроў цячэ жыдам!**
**"Ты б'еш майго, а я твайму аддам!"**

**І, можа б, так на смерць пабілі.**
**Дык хітра ж і жыдкі зрабілі:**
**Той перасеў таму на воз, а той туды.**
**І так запхалі абодва без бяды;**

**І мужыкам так стала бліжэй дому,**
**І крыўды ніякай нікому.**
**Пазналіся жыдкі, пагергаталі.**
**Дык мужыкі і біцца перасталі!**

**А што, каб так і мы зрабілі,**
**А можа бы і нас не білі!**

Верш Ядвігіна Ш. — гэта нібыта наследаванне Ф. Багушэвіча. Але і ў сваім вершы Ядвігін Ш. застаецца гумарыстам. Гумар яго нязлосны, гуллівы. А твор — дасканалы. Паводле слоў Алесі Лёсік, у Ядвігіна Ш. было шмат такіх вершаў. Калі яна была малая, яе мама, дачка Ядвігіна Ш. Ванда, часта чытала сваім дзецям вершы свайго таты: "Яны былі смешныя (я гэта памятаю), — згадвае Алеся, — і, мабыць, ён іх ніколі не друкаваў, а толькі для дзяцей".

...Ядвігін Ш. — празаік. Тым не менш, на ягоным надмагільным помнічку вершаваная страфа з яго ж твора — з паэмы "Дзед Завала".

**Даўно гэта было.**
**Хадзіць чуткі сталі,**
**Аб Вялікай Волі**
**Ўсе заталкавалі.**

Ядвігін Ш. хоць і быў празаік, але ён меў паэтычную,уражлівую душу, таму не-не ды хоць калі гэтая душа гаварыла вершам. І не толькі тады, калі штосьь рыфмавалася, але калі пісалася проза. І найперш ён паэт у сваіх празаічных імпрэсіях "Раны", "Васількі", "Бярозка", "Чаму?".

Між іншым, сёлета семдзесят пятая гадавіна з часу смерці Ядвігіна Ш. Пахаваны ён у Вільні на славутых могілках Росу. Ягоная магіла пры самай дарожцы недалёка ад уваходнай брамы. У 1937 годзе руплівыя віленскія беларусы на яго магілцы паставілі помнічак з шэрага граніту.

На Беларусі ж імя Ядвігіна Ш. пачалі ўшаноўваць зусім нядаўна. У канцы васьмідзесятых гадоў на будынку колішняй мінскай гімназіі, што на пляцы Волі — мінчукі яго ведаюць як Дом прафсаюзаў, — была ўсталявана з руплівасці вядомага дзеяча культуры Адама Мальдзіса памятная дошка з імёнамі найбольш слынных яго выхаванцаў. Сярод іх згадана і імя Ядвігіна Ш. Ушанавана пісьменнікава сядзіба ў Радашкавічах. А не гэтак даўно паўстала на Беларусі і яшчэ адна памятка пра Ядвігіна Ш. На гэты раз на яго сядзібе — у Карпілаўцы. Паруліўся пра яе вядомы паэт і мастак Сяргей Давідовіч. Ён за свой кошт і сваёй працай усталяваў тут знак-паказальнік, які паведамляе, што маляўнічы кут з прысадамі, з Дубам-Дзядулем — гэта сядзіба вядомага беларускага пісьменніка і грамадскага дзеяча Ядвігіна Ш. Дзяржава ж пакуль на ўзроўні ўрада нічога не зрабіла дзеля ўшанавання памяці самабытнага пісьменніка, які аддаў увесь свой талент, усё сваё жыццё дзеля Беларусі, дзеля лепшай долі яе народа.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

**Наталья АРСЕНЬНЕВА**

## ПАМЯЦІ ЯДВІГІНА Ш.

**Ціха з шэрых нябес белы падае сьнег,**
**А учора сьмяялась вясна,**
**Сонца першыя косы так сьветлы былі,**
**Усьмяхаючысь, хмаркі ў блакіце плылі,**
**І ласкаў, і звадзіў гэты сьмех.**

**Вецер, — той нават дыхаў у твары вясной,**
**Ўжо чарнела дзе-не-дзе зямля.**
**Ўсюды з грукатам срэбным плылі ручаі,**
**Ты памёр, ня прыждаўшы чароўнай вясны,**
**Сьпі-жа з чыстай, спакойнай душою.**
**Тут, на шумнай зямлі, ты і жыў, і цярпеў,**
**Ты народ свой гаротны кахаў,**
**Ты да мэты ішоў бяз пуці, бяз дарог,**
**Працаваў, не шкадуючы сіл, пакуль мог,**
**Ня прыждаўшы вясны, дагарэў.**

**Дагарэў... але сьветлая памяць твая**
**Не разьвеецца лёгка, як дым.**
**Не забудуцца простыя словы твае,**
**І, як сына найлепшага, прыйме цябе,**
**Беларусі пакутнай зямля.**

*1922.*



**У вёсцы Рог Салігорскага раёна няма свайго клуба. Але для аматараў народнай песні гэта не стала перашкодай. Вось ужо дваццаць адзін год працуе тут фальклорны калектыў, якім кіруе намеснік дырэктара Чырвонаазёрскай школы Ганна Макарэвіч.**

**Добра ведаюць калектыў у раёне, у суседнім Слуцку і Мінску. Выконваюць самадзейныя артысты рытуальныя і фальклорныя песні свайго рэгіёна, якія самі збіралі ўсе гэтыя гады. Калектыў з вёскі Рог — удзельнік рэспубліканскага тэлевізійнага фестывалю "Залатыя ключы".**

**НА ЗДЫМКУ: Рогаўскі фальклорны калектыў.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# ЖАДАЮЧЫ СВЯТЛА, ДАБРА, ЛЮБОВІ...

Працэсы нацыянальнага Адраджэння, што дзейсна заявілі пра сябе ў сярэдзіне 80-х гадоў, актывізавалі творчую дзейнасць аўтараў, якія мелі цягу да мастацкага слова, спрабавалі пісаць, але з цягам часу адышлі ад роднай мовы, пачалі аддаваць перавагу рускай. Да іх належыць і Мікалай Віняцкі — чалавек ужо немалады, прадстаўнік прафесіі, якая, здавалася б, вельмі далёкая ад літаратуры. Ды аб усім па чарзе...

Нарадзіўся М. Віняцкі 13 сакавіка 1939 года ў вёсцы Чыгірынка Кіраўскага раёна, што на Магілёўшчыне. Скончыўшы сямігодку, паступіў у Мінскі палітэхнікум, набыў спецыяльнасць тапографа. Гэта на многія гады прадвызначыла яго далейшыя жыццёвыя сцяжыны-дарогі, што былі звязаны з тапаграфічна-геадэзічнай і картаграфічнай дзейнасцю. Праўда, яшчэ завочна скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт, аспірантуру пры Беларускім тэхналагічным інстытуце імя С. М. Кірава, абараніў кандыдацкую дысертацыю па спецыяльнасці геадэзія. Давялося, як кажуць, уздоўж і ўпоперак скалясіць колішні Савецкі Саюз. І не толькі. На працягу года М. Віняцкі быў нават спецыялістам-кансультантам па геадэзічных справах у Афганістане.

Пісаць вершы пачаў яшчэ ў школе. Аднак з цягам часу больш друкаваўся ў спецыяльных выданнях, што выходзілі ў Маскве — часопісе "Геодезия и картография", газеце "Геодезист", зборніку "Геодезия и аэрофотосъемка". Найчасцей гэта былі артыкулы, што закранілі надзённыя праблемы, звязаныя з профільнай працай М. Віняцкага. У душы ж жыла тая паэзія, што несла ў сабе ўражанні аб чароўных народных песнях, пачутых на Радзіме, напоўненая хараством родных краявідаў, якія надзіва вабныя ў наваколлі Чыгірынкі. Да пары да часу жыла, каб выліцца радкамі, што ідуць ад самага сэрца.

Цяпер М. Віняцкі — пастаянны аўтар газет "Чырвоная змена", "Звязда", друкаваўся ў "Народнай газеце", "Добрым вечары", у часопісе "Маладосць". І вось першая кніга паэта "Пад крылом лебядзіным...". Яна пабачыла свет не ў дзяржаўным выдавецтве, а з'явілася ў творчай фірме "Тэмікс". Падтрымку аказала кіраўніцтва Беларускага картаграфічна-геадэзічнага аб'яднання "Белгеадэзія".

Зборнік не надта вялікі памерам, але важкі зместам, ён сведчыць, што М. Віняцкі аднолькава паспяхова выступае ў розных жанрах. Зусім не чужы яму і адзін з самых старых сярод іх — санет, які, як вядома, патрабуе ад творцы асабліва вялікага майстэрства.

Дарэчы, цалкам з санетаў складаецца і першы раздзел "Гарнуся да Святла, Дабра, Любові". Няцяжка здагадацца, што ў ім дамінуюць матывы душэўнай шчодрасці, светласці, кахання. Канечне, і ў творах іншых жанраў (традыцыйных вершах, песнях) М. Віняцкі не абыходзіць гэтай вечнай тэмы, але менавіта ў санетах, услаўляючы чысціню чалавечых пачуццяў, ён дасягае найбольшага поспеху.

На тое, як на маю думку, дзве прычыны, прытым узаемазвязаныя. Санет вымагае ад творцы скандэнсаванасці пачуцця і думкі, але пачуцця яркага, узвышанага, зямнога ў аснове сваёй, але якое сягае да зорных вышынь. Каханне ў разуменні паэта і з'яўляецца менавіта такім — шчырым, зямным і адначасова зорным...

Гэтае спалучэнне добра бачнае ў адным з лепшых санетаў М. Віняцкага:

**Як любасна зірнеш мне ў сінь вачэй —**
**Адхлыне ўміг дазвання знемажэнне,**
**Душы наступіць спеўнае ўзрушэнне,**
**І дыхаць ёй у сто разоў лягчэй...**

**Калі прыхіліш грудзі да плячэй —**
**Адчую сладастраснае ўзбуджэнне,**
**На твары прачытаю засмучэнне,**
**З якога зніч любві ўзгарыць ярчэй...**

**Адорыш пацалункам — захмялею,**
**Адчуўшы ў ім ранетаў пах слабы...**
**З уздыху акрыялых крыл самлею...**

**Кахаючы цябе, лічы, без меры,**
**Мой салавейка ліраю журбы**
**Гімн прапяе Любві, Надзеі, Веры.**

Ды і песні М. Віняцкага (з іх цалкам складаецца раздзел "Гары, касцёр зары...", але знайшлося ім месца і ў трэцім раздзеле "Лаўлю душой зямных пачуццяў зрух...") таксама сатканы з пачуццяў, якія спалучаюць у сабе душэўныя імпульсы, што з'яўляюцца тады, калі жадаецца споведзі. Упэўнены, што асобныя з іх выконваліся і самім аўтарам, і яго сябрамі ля кастроў, калі пасля доўгага працоўнага дня хацелася адпачыць. І гэтая песня — "Свяці, Венера, зоркаю вячэрняй...":

**Свяці, Венера, зорка залатая,**
**Узняўшыся над полымем зары..**
**Лядок душы маёй, дай Бог, адтае,**
**Пакуль агонь зіхціць твой угары.**

Верш "Плывуць лебедзі-гусі..." блізкі фальклору, але ён і адметны тым, што знаёмы матыў, прапушчаны паэтам праз сэрца, дазволіў выказаць пачуцці, блізкія многім. Прынамсі, усім, каму любая маці-Беларусь: "Раняючы крыкі ў просінь, // Канае пакутліва восень... // Крылатыя лебедзі-гусі // Плывуць над маёй Беларуссю..."

Гэта, аднак, не значыць, што М. Віняцкі ў сваёй творчасці адыходзіць ад рамантычных момантаў у жыцці. Наадварот, ён дае ім сваю ацэнку ў паэме "Баюся, быць бядзе", што стала асэнсаваннем чарнобыльскай трагедыі. Як і многія творцы, паэт задумваецца і над небяспекай з'яўлення чарнобыляў маральных, духоўных. І зноў жа напісанае з'явілася не само па сабе, а было падказана асабістымі ўражаннямі падчас наведвання "чарнобыльскіх раёнаў" — давялося М. Віняцкаму складаць і карты, што называюцца радыяцыйнымі.

У адзін з раздзелаў "З вымераў зорна-земных вартых...." увайшлі вершы, у якіх паэт апявае сваю прафесію. Часам, канечне, ён залішне выкарыстоўвае спецыяльныя тэрміны (на гэта звяртае ўвагу ў прадмове "Паэтычны азімут: рух праз Чарнобыль" і лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа Віктар Гардзей), але ў цэлым творы ўражваюць навізной адкрыцця: М. Віняцкі піша пра тое, пра што да яго, калі і пісалі, дык нямногія. А гэта, безумоўна, пашырае тэматычныя абсягі беларускай паэзіі.

Нельга не пагадзіцца з ацэнкай, дадзенай творчасці М. Віняцкага тым жа В. Гардзеем: "Паэтычны азімут Мікалая Віняцкага... вызначаны з мноства вымярэнняў, але, дзе б ні быў паэт, вугал судакранання з рэчаіснасцю нязменна паказвае на родную Беларусь..."

Застаецца дадаць, што са з'яўленнем кнігі "Пад крылом лебядзіным..." пабольшала яшчэ на аднаго цікавага паэта, якога, на жаль, чытачы доўгі час не ведалі досыць поўна, а толькі па асобных публікацыях у перыёдыцы.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**





# СОРАК САРАКОЎ, СОРАК ВЫРАЯЎ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**А ўжо ж вясна, дай ужо ж красна,**
**Да стрэх вада капле, да і з стрэх вада капле,**
**А ўжо ж табе, хлопча, ясендроўванька пахне.**
**Вандруй, вандруй, хлопча, ў чыстае поле,**
**За ім дзяўчыванька сцяжыначку поле.**
**Дай сцежачку поле, вярніся, саколе.**

Часам напачатку спявалася вяснянка — просьба да старэйшых:

**Благаславі, маці, вясну загукаці,**
**Лецечка адмыкаці, а зіму замыкаці.**
**Дай, Божа, на жыцечка род, на статачак плод.**

Калі гаспадар на Сараkі паіў жывёлу, то спачатку мыў свой твар — "каб жывёла слухала яго і набралася яго розуму". Дзяўчаты адразалі валасы з хваста каровы з магічнымі мэтамі — каб каса вырасла такой доўгай, як хвост у каровы. Ладзілі арэлі і весела гушкаліся, каб увесь год весела жылося. Курам навязвалі прыгожыя стужкі, каб прыгожы хлопец стаў мужам. Ля варот ставілі лапату, качаргу і памяло, каб ведзьма з'ехала на Лысую гару. Было і шмат іншых мясцова адметных дзеянняў.

З усіх бачаных прысвяткаў Саракоў вельмі запомніўся карагод, які паміж беластволых бярозак вадзілі святочна ўбраныя жанчыны ў в. Валаўск Ельскага раёна (у аўтара ёсць відэафільм аб гэтым свяце):

**Перайманачка, чорная галачка,**
**Ой, рано-рано, чорная галачка**
**Пераманіла сівага сокала,**
**Ой, рано, рано, сівага сокала.**
**— Ой, а я ж яго дай не маніла,**
**— Ой, рано-рано, дай не маніла!**
**Ён са мной не спаў, усю ноч шчабятаў,**
**Ой рано-рано, усю ноч шчабятаў.**
**Толькі ж заснула — яго не чула,**
**Ой, рано-рано, яго не чула.**

Цікава, што ў Валаўску на Сараkі спяваюць самыя разнастайныя ў жанравых адносінах песні, водзяць карагод, ладзяць гульні, але ў іх абавязкова галоўнымі дзеючымі асобамі з'яўляюцца птушкі: лірычную роздумную "Па-за садам, па-за гаем галубы лятаюць", баладу "Дачка-зязюлька", жартоўную пра гаспадыню, якая скубе варону на падушку, сямейную "Ой, жураўка, жураўко" і вельмі многа вяснянак з гуканнем.

Мудрыя старэйшыя людзі на Сараkі перадаюць назапашаны вопыт праз прыказкі, прымаўкі і выслоўі-прыкметы: "На Сараkі дзень з ноччу мераецца"; "На святыя Сараkі не ідзі да ракі" (маецца на ўвазе, што лёд слабы); "Ужо святыя Сараkі — у поле саху валакі"; "На Сараkі сей авёс у гразь — будзеш князь" і іншыя.

У Валаўску на горцы вадзілі на Сараkі выдатнейшы, асабліва ў мелодыі, карагод:

**Раскапаемо гору, дай пасеемо ружу,**
**Ой, рано-рано, дай пасеемо ружу.**
**Дай пасеемо ружу, дай паставім старожу,**
**Ой, рано-рано, дай паставім старожу.**
**Дай няверна старожа, бо пашчыпана ружа,**
**Ой, рано-рано, дай пашчыпана ружа.**
**Ой, ветрык павявае, хмарка й наступае,**
**Ой, рано-рано, хмарка й наступае.**
**А бацько дочку мае, гуляць не пускае,**
**Ой, рано-рано, гуляць не пускае.**

На Сараkі магічнай лічбай стала сорак. Першапачатковым імпульсам было сцвярджэнне, што да 22 сакавіка ў розныя мясціны вяртаецца сорак выраяў. Таму трэба было спячы, а часам і з'есці сорак пампушак-піражкоў, або сорак галёпаў, зламаць сорак трэсак або дошак. Апошнія клалі сярэдзінай на бервяно, і дзяўчаты на абодвух канцах па чарзе падскоквалі, падкідваючы адна другую, пакуль дошка не ламалася. У хрысціянскія часы лічба і свята сталі звязвацца з вядомымі па Біблii сарака мучанікамі.

Печыва з выявамі птушак (на Случчыне іх называлі "патапцамі") мела магічнае, цудадзейнае значэнне, таму іх пасля свята Саракоў да наступнага захоўвалі за абразамі разам з грамнічнымі свечкамі.

На вялікі жаль, як абрадавае свята прылёту птушак, вяртання на радзіму сарака выраяў, перамогі цяпла над холадам, перавагі дня над ноччу, свету над цемрай, свята павароту "на новае жыта, на новае лета" 22 сакавіка захавалася толькі ў генетычнай падсвядомасці народа, недзе ў вельмі зашыфраваным кодзе. Але яно, у гэта я веру, як птушка Фенікс, "ўзнікне з попелу". Ужо ў дзвюх вёсках яно рэканструявана, адроджана ў прыгожым, па-мастацку аздобленым выглядзе: у в. Валаўск Ельскага і в. Раманавічы Магілёўскага раёнаў.

**НА ЗДЫМКАХ: фальклорны калектыў з вёскі Раманавічы Магілёўскага раёна (мастацкі кіраўнік Ірына ЯКАЎЛЕВА) адраджае свята Саракоў; жанчыны просяць: "Жавароначкі, прыляціце".**

**Васіль ЛІЦЬВІНКА.**
**Фота Анатоля КАЛЯДЫ.**

*НАТАТКІ НАТУРАЛІСТА*

# АКУНЬ

Акунь — найбольш шырока вядомая рыбаловам-аматарам рыба, самая шматлікая ў вадаёмах нашай рэспублікі і практычна сустракаецца ўсюды, дзе ёсць больш-менш чыстая вада. Аднак больш за ўсё любіць пасяляцца ў вадзе чыстай. Дробная рыба трымаецца сярод расліннасці ў прыбярэжных зонах вадаёмаў, буйная — у ціхіх затоках, дзе праводзіць асноўны час і выходзіць толькі на жыраванне.

Акунь даволі лёгка адрозніць ад іншых рыб па шырокім, злёгку гарбатым тулаве з цёмна-зялёнай спіной. Асобае адрозненне прыдаюць яму таксама 5—9 цёмных палосак, якія цягнуцца ўпоперак цела.

Звычайная вага акуня — 800—1 200 грамаў. Аднак бываюць асобіны вагой да чатырох кілаграмаў. Пры гэтым даўжыня цела не перавышае паўметра, таму што яно расце ў асноўным у таўшчыню. Старыя "гарбачы" па вышыні маюць размер да 25 сантыметраў і таўшчыню ў спіне больш за 15 сантыметраў.

На нераст выходзіць у канцы красавіка — пачатку мая, у перыяд распускання лісця бярозы. Ікра акуня склейваецца ў доўгія стужкі, якія ён чапляе за карэнне, каменне і леташнюю расліннасць.

Акунь харчуецца амаль усім жывым, што яму трапляецца і падыходзіць па сіле: жукамі, чарвякамі і іншай воднай жыўнасцю. Асабліва любіць ракаў. Але асноўны харч — дробная рыба. Ён моцны і агрэсіўны драпежнік. Пры паляванні адбівае рыбку ад стаі і, гучна чмякаючы сваёй вялікай пашчай (гэта чмяканне часам чуваць за сотню крокаў), ганяе яе з незвычайнай настойлівасцю. Часам нават выскоквае за сваёй здабычай на берагавыя мелі. Плаваюць акуні рэзкімі штуршкамі. Яны могуць рэзка спыняцца і зноў маланкава кідацца за здабычай.

У зімовы перыяд стаі акунёў перабіраюцца ў глыбокія ямы.

Акуні актыўна харчуюцца, і таму лавіць іх можна практычна круглы год.

Лепшыя месцы для лову акуня — закаржаныя ямы, ля абрывістых берагоў, а таксама ўчасткі вадаёмаў, якія пазарасталі трыснягом, асакой. Яны аднолькава добра ловяцца паплавочнымі і закіднымі вудачкамі, спінінгам, на блешню і мармышку. Клюе акунь рэзка, адразу захоплівае насадку сваім вялікім ротам, цягне яе ўбок і на хаду заглытвае. У якасці насадкі звычайна выкарыстоўваюць чарвяка, матыля, лічынкі стракоз, малькоў рыб, маленькіх жабак ці маладых п'явак. Вельмі добра ідзе акунь на ліняючага рака, ракавыя шыйкі і маленькіх рачных рачкоў. Восенню і зімою добрыя вынікі дае лоўля на металічную блешню, асабліва праз некалькі дзён пасля замярзання вадаёма.

Мяса акуня, хаця і касцістае, але далікатнае і салодкае. Яго вяляць, выкарыстоўваюць для юшкі сумесна з іншай рыбай, некаторыя соляць на зіму. Але найбольш смачны акунь смажаны ў сметанковым масле.

**В. СТОМА,**
**біёлаг.**

# БЕЛАРУСЬ НАБЛІЖАЕЦЦА ДА ЕЎРАПЕЙСКІХ СТАНДАРТАЎ

**Нарэшце і Беларусь наблізілася да еўрапейскіх стандартаў, праўда, пакуль што толькі ў паштовай сферы.**

**Так, з 1 ліпеня гэтага года ў рэспубліцы ўводзіцца новы адзіны парадак адрасавання лістоў. Як паведамілі ў рэспубліканскім аб'яднанні "Белпошта", канверты старога ўзору, якімі мы карысталіся для перасылкі карэспандэнцыі па Беларусі і краінах СНД, ліквідуюцца. У абыходжанне будуць уведзены канверты міжнароднага ўзору, што раней выкарыстоўваліся толькі для сувязі з краінамі далёкага замежжа. Дарэчы, адрас атрымальніка цяпер патрэбна будзе ўказваць у правым ніжнім вугле канверта, а адрас адпраўшчыка — у левым верхнім.**

**Святлана ШАБЛІНСКАЯ.**

# ЭКЗАТЫЧНЫЯ ЖЫВЁЛІНЫ

**"Свет рэптылій" — так называецца выстава, якая праходзіць у мінскім Палацы культуры і спорту чыгуначнікаў. Тут можна ўбачыць змей, пітонаў, кракадзіла і іншых рэдкіх для нашых краёў жывёлін.**

**Усяго на выставе прадстаўлена звыш дваццаці жывёлін з краін Паўднёва-Усходняй Азіі, Афрыкі, Амерыкі.**





**НА ЗДЫМКАХ: мадагаскарскага кракадзіла дэманструе Аляксандр СТАРАЖЭНКА; канхінхінскі дракон.**

**Фота Мікалая ПЯТРОВА.**

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, зверстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 453. Падпісана да друку 24.3.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.